Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 чэрвеня 1986 г. № 24 (3330) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

На III Рэспубліканскім фестывалі тэатраў лялек, які гэтымі днямі праходзіць у Гродне, беларускія лялечнікі прымаюць у сваю сям'ю новы творчы калектыў. Спектакль па п'есе В. Вольскага «Дзед і жораў» паказвае адкрытая ў мінулым сезоне лялечная трупа Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

**— Лялькі ў Віцебску робяць самыя першыя крокі, — сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» кіраўнік калектыву Віктар КЛІМЧУК (на здымку М. Шмерлінга ён у цэнтры). — Нам трэба шмат вучыцца, таму фестываль — гэта і выдатная школа, і надзвычай адказны экзамен... Хочацца стварыць не тэатр «увогуле», але духам, каларытам сваім сапраўды нацыянальны, бо жыццё нашай трупе дала славутая коласаўская сцэна...**

Беларуская драматургія прадстаўлена ў фестывальнай афішы п'есамі «Хлопчык з легенды» Г. Васілеўскай, «Граф Глінскі-Папялінскі» А. Вольскага, «Папараць-кветка» Г. Каржанеўскай і «Балада пра белую вішню» С. Клімковіч.

У творчым спаборніцтве ўдзельнічаюць усе лялечныя тэатры рэспублікі.




# Яго вялікасць — ХЛЕБ

**З міністрам хлебапрадуктаў БССР М. С. ЯКУШАВЫМ гутарыць карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва»**

правіла, аднаго-двух гатункаў. Хіба гэта можа задаволіць пакупніка?

**М. Я.** — Вы маеце рацыю. Самае галоўнае для нас сёння думка пакупніка. За нас ці супраць нас урэшце галасуе хлебная паліца ў магазіне. Атрымліваецца дзіўная рэч — мінулую пяцігодку былое міністэрства харчовай прамысловасці, якому належала гэтая галіна, закончыла быццам і з нядрэннымі паказчыкамі. А лічба, часам, бывае вельмі падманлівая. Мабыць, таму для многіх работнікаў хлебабулачнай прамысловасці прагучала, як пярун з яснага неба, прынцыповая крытыка ЦК КПБ і Савета Міністраў за сур'ёзныя недахо... ў выкананні рашэнняў дырэктыўных органаў па эканомным расходаванні хлебабулачных вырабаў і больш поўным задавальненні патрэбы ў іх насельніцтва.

Ведаеце, апошнім часам мне давялося шмат паездзіць па рэспубліцы, пабыць у многіх раённых цэнтрах. Вось і сёння, калі мы з вамі гутарым, з раніцы я ездзіў у Дзяржынск. Сапраўды, у многіх месцах становішча з вырабам і продажам хлебабулачных вырабаў не зайздроснае. На хлебазаводах не хапае вытворчых магутнасцей, старое абсталяванне, адсталая тэхналогія. У якасці прыкладу я магу назваць хоць бы і такі не малы горад, як Маладзечна. Разам з мясцовымі партыйнымі і савецкімі органамі мы намецілі канкрэтныя захады па павелічэнні вытворчых плошчаў, і неўзабаве тут будзе ўве...ены ў строй яшчэ адзін хле...пякарны цэх. За кошт прыцягнення і мясцовых рэсурсаў будзе выпраўлена становішча ў Дзяржынску, іншых раённых цэнтрах рэспублікі.

Па-за ўвагай заставаліся і факты невыканання планаў па вырабе сухарных, булачных, кандытарскіх і булачных вырабаў, заданняў па выкарыстанні малочнай сыроваткі і іншых напаўняльнікаў. Навошта гэтыя напаўняльнікі? Ад іх і хлеб смачнейшы, і мукі ідзе меней— гэта кожная добрая гаспадыня ведае. Павялічыўся і брак — з 4,2 працэнта ў 1981 годзе да 6 — у 1985.

**К.** — Мо гэта залежала ад нізкай якасці мукі? Мо на булкі і іншае печыва ішла мука не вельмі добрых гатункаў? Лепшай не было?

**М. Я.** — Для нашай мукамольнай прамысловасці паняцце — паскарэнне акурат і азначае павелічэнне вытворчасці мукі вышэйшага гатунку. Вядома, што з аднолькавага збожжа можна атрымаць муку рознага памолу. На жаль, у мінулай пяцігодцы павелічэнне вытворчасці мукі вышэйшага гатунку дасягалася экстэнсіўным шляхам — большым аб'ёмам перапрацаванага зерня.

Мы ставім задачу да 1990 года давесці выхад мукі вышэйшага гатунку на 78-працэнтным памоле да 28-30 працэнтаў, на 75-працэнтным — да 35-38 працэнтаў. Лічбы зразумелыя? Не? Мука ж атрымліваецца не з усяго зярнятка, і ўвесь, так сказаць, фокус у тым, каб як найтанчэй зняць з яго абалонку, аддзяліць. Усё залежыць ад таго, якое абсталяванне, якая тэхналогія. Калі, напрыклад, са ста кілаграмаў пры памоле атрымліваецца 75-78 кілаграмаў мукі вышэйшага гатунку — гэта добры паказчык.

Такая якасць памолу ў нас, напрыклад, на Лідскім млынкамбінаце, будуць уведзены такія ж эфектыўныя лініі на нашых прадпрыемствах у Клімавічах, пасёлку Уза Гомельскай вобласці, у Мінску. Прадугледжана тэхнічнае пераўзбраенне млыноў у Брэсце, Віцебску, Полацку, Магілёве. Гэтыя і іншыя захады дадуць магчымасць павялічыць вытворчасць мукі вышэйшага гатунку к канцу пяцігодкі амаль удвая.

Прымаюцца меры да павелічэння колькасці фасовачнай прадукцыі.

**К.** — Мікалай Сцяфанавіч, такое пытанне да вас. Увогуле, круп у магазінах мо і хапае, ды асартымент даволі абмежаваны. Напрыклад, грэчкі амаль ніколі не бывае...

**М. Я.** — Так, грэчкі ў нас хранічны дэфіцыт. Прычына толькі адна — нізкія ўраджаі гэтай культуры ў рэспубліцы. Была не адна пастанова наконт павелічэння вытворчасці грэчкі, але, мне здаецца, эфектыўных зрухаў пакуль што няма.

**К.** — А аўсяныя крупы? Таксама дэфіцыт. Між іншым, вельмі карысны прадукт, асабліва для людзей хворых на страўнік. У Англіі, напрыклад, я чытаў, аўсяная каша ці не нацыянальная страва. Чаму ж у нас не хапае аўсяных круп? Тым больш, што авёс у Беларусі — адна з самых ураджайных культур.

**М. Я.** — Вы маеце рацыю, але становішча мы выпраўляем. У Талачыне і Смаргоні будзем будаваць цэхі па вырабе аўсяных круп, аўсянай мукі, хлоп'яў. Будзем выпякаць аўсянае пячэнне, якога пакуль што ў нас мала, за ім таксама ў магазінах-чэргі.

Такія яны, першыя крокі па пашырэнні асартыменту нашых вырабаў.

**К.** — Колькі раней было нараканняў на тое, што ў нас не пякуць жытняга хлеба, такога, як у Літве (там ён, здаецца, называецца каўнаскім). Хто ні ездзіў у Вільнюс, абавязкова браў адтуль з сабой гэты хлеб. Цяпер у нас з'явіўся не горшы — раўбіцкі, за гэта — дзякуй. Вельмі падабаюцца мінчанам і вельмі смачныя «доўгія» батоны, толькі іх не хапае...

**М. Я.** — Я сам некалі прасіў знаёмых, якія ездзілі ў Вільнюс, прывезці адтуль чорны жытні хлеб. Аднойчы на адным з пасяджэнняў я прысаромеў нашых спецыялістаў: няўжо, кажу, мы не можам пячы такі хлеб? Узяліся за гэтую справу на трэцім хлебазаводзе ў Мінску. І, бачыце, атрымалася. Цяпер яны даюць 9-10 тон раўбіцкага хлеба. Малавата? Будзем выпякаць больш, для гэтага ёсць усе ўмовы. Што тычыцца «доўгіх» батонаў, якія вырабляюць на імпартнай лініі, дык іх сапраўды не хапае. Наогул, я павінен сказаць, што іх лацвей прадаваць не ў хлебных магазінах, а ў кафэ, там і пячы, каб той батон з'есці гарачым з кавай, чаем, сокам, нарэшце.

**К.** — Я б не здзівіўся, калі б кавалак гэтага «замежнага» батона ўбачыў на сметніку. Давайце, Мікалай Сцяфанавіч, пагаворым пра такое набалелае пытанне, як адносіны да хлеба. Так, мы ганарымся, што ў нашай краіне самы танны ў свеце хлеб. Але хіба гэта дае некаторым права адносіцца да яго проста па-варварску? На сметнік выкідваюцца не тое што кавалкі — цэлыя боханы хлеба, толькі-толькі пачатыя батоны. Усё гэта прымушае думаць не толькі пра матэрыяльны, а і вялізны маральны ўрон... Ва ўсіх магазінах вісяць плакаты, якія заклікаюць берагчы хлеб, ды толькі многія пакупнікі, раўнадушна слізгануўшы па іх вокам, набіраюць хлеба і булак з запасам, быццам заўтра іх ужо не будзе... А колькі разоў мне даводзілася назіраць, як па прывакзальнай плошчы ў Мінску, ды і ў іншых вялікіх гарадах на такіх плошчах, дзядзькі і цёткі ідуць да прыгарадных цягнікоў, несучы мяхі з хлебам. Зразумела, не для яды — на корм жывёле. Печаны хлеб!

**М. Я.** — Гэта сапраўды варварства. На жаль, не ўсе разумеюць, што крышыць бохан хлеба ў свінячае карыта проста амаральна. Зрабіць так можа толькі несумленны чалавек, як і выкідваць на сметнік хлеб і булкі ў горадзе. Некалькі гадоў назад да мяне ў госці прыязджаў стары знаёмы — адказны партыйны работнік з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, якога я, знаёмячы з рэспублікай, павёз і на буйны свінагадоўчы комплекс. Мы агледзелі, між іншым, вялікі цэх, дзе апрацоўваліся і кармы, сабраныя ў гарадскіх кватэрах з харчовых адыходаў, і тут твар у майго спадарожніка выцягнуўся. Я спытаў у яго, што яму не спадабалася, што збянтэжыла? Ён паказаў на вялізную скрыню, напоўненую кавалкамі хлеба і булак, і з роспаччу ў голасе спытаў: «Як гэта можна выкідаць?» Прызнацца, мне стала сорамна. Каб усе ведалі, якой цаной здабываецца гэты хлеб! Не, я не буду на гэты раз расказваць, як цяжка яго вырошчваць — вывезі на поле гной, узары, пасей, дагледзь пасевы, сажні і г. д. Я скажу пра тое, што большасць людзей не ведае. Ці задумваўся хто-небудзь, якая гэта цяжкая праца — змалоць зерне? Уявіце сабе, што на сучасным млыне зерне, пакуль яно змелецца, праходзіць шлях у 9-10 кіламетраў! А прафесія хлебапёка, думаеце, лёгкая? Нават пры сучаснай механізацыі...

Што тут рабіць, вы пытаецеся? Выхоўваць, выхоўваць людзей! Дарэчы, літаратарам, журналістам таксама гэтым трэба займацца.

**К.** — Відаць, пэўным выхадам са становішча быў бы выпуск хлебабулачных вырабаў меншай вагі...

**М. Я.** — Вы маеце рацыю. Бывае, што чалавеку паўбохана хлеба мала, а цэлага многа, але ён усё роўна купляе цэлы, маўляў, хай лепей застанецца... Мы працуем у напрамку павелічэння ўдзельнай вагі малавагавых форм боханаў хлеба па 700-900 грамаў. Толькі за чатыры месяцы гэтага года выраб такога хлеба павялічыўся на 15 працэнтаў, булачных вырабаў па 500 грамаў і менш — на 14 працэнтаў.

**К.** — Раней было шмат нараканняў на тое, што хлеб і булкі ў магазінах чарсцвеюць і іх вымушаны вяртаць на хлебазаводы...

**М. Я.**—У магазіны хлебабулачныя вырабы завозяцца чатыры-пяць разоў у суткі, так што не ведаю, калі яны паспяваюць чарсцвець. Хлеб вязуць назад на завод? Вось вам лічбы: з мільёна тон гадавой выпечкі ў рэспубліцы з магазінаў вяртаюць толькі 1300 тон — крыху больш адной дзесятай працэнта. Гаворачы пра эканомію хлеба, нельга ігнараваць і пэўныя адміністрацыйныя меры. Вы казалі, што бачылі, як людзі набіраюць поўныя торбы хлеба. Гэта сапраўды было. Я кажу ў мінулым часе таму, што сёння вы гэтага не ўбачыце. Мінгандаль даў указанне ў адны рукі не прадаваць больш чым два боханы хлеба. Нармiруецца і продаж круп, бо знаходзіліся аматары тымі крупамі карміць хатнюю птушку.

Я ўпэўнены, што вялікую ролю ў спыненні гэтага марнатраўства адыграе Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб узмацненні барацьбы з атрыманнем непрацоўных даходаў», дзе асобным пунктам пазначана, што скармліванне жывёле і птушцы печанага хлеба і круп, купленых у дзяржаўных ці кааператыўных магазінах, караецца не малым грашовым штрафам.

**К.** — Збожжа — мука — хлеб... У гэтым ланцужку першае звяно трымаюць у сваіх руках хлеборобы, астатнія — вы. Відаць, у гэтым «стыкаванні» ёсць пэўныя праблемы? Я маю на ўвазе хоць бы і чэргі ў час жніва ля элеватараў і іншых прыёмных пунктаў.

**М. Я.** — Гэта ўсё адышло ў мінулае. Сёння ў нас дастаткова сховішчаў для збожжа, каб не было чэргаў, па-другое, устаноўлены графікі прыёмкі збожжа для кожнай гаспадаркі.

**К.** — Мікалай Сцяфанавіч, у сістэме вашага міністэрства і камбікормавая прамысловасць. Я чытаў, што ў многіх высокаразвітых краінах жывёлагадоўля, так сказаць, трымаецца на камбікармах, якія там вырабляюцца дыферэнцыравана для кожнага віду жывёлы.

**М. Я.** — У гэтай справе мы асабліва цесна стыкуемся з аграпрамысловым комплексам. Сапраўды, пераацаніць каштоўнасць камбікармоў для павышэння прадуктыўнасці жывёлы цяжка. Ён жа ўтрымлівае да дзесятка розных кампанентаў, сярод якіх вітаміны і мікраэлементы, неабходныя жывёле. Акрамя дзяржаўных збожжавых фондаў, на выраб камбікармоў ідзе так званае давальніцкае збожжа калгасаў і саўгасаў. Так, напрыклад, вядомы ў рэспубліцы калгас імя Гастэлы Мінскага раёна штогод выдаткоўвае на гэтыя мэты больш як дзве тысячы тон збожжа. Праўда, там-сям дагэтуль не разумеюць перавагу камбікармоў над звычайнымі канцэнтратамі.

Перад намі стаіць задача рэзка нарасціць магутнасці камбікормавай прамысловасці. Значная частка камбікорму будзе вырабляцца ў выглядзе гранул. Вось усё, што я магу сказаць па гэтым пытанні.

**К.** — Дзякуй, Мікалай Сцяфанавіч, за цікавую і змястоўную гутарку.

**Запісаў гутарку М. ЗАМСКІ.**

---

Тарасаў, А. Верабей, М. Кеньна.

«З філалагічных эцюдаў, апавяданняў»—назіранні Ф. Янкоўскага прадстаўлены ў раздзеле «Культура мовы».

Завяршае нумар «Наш каляндар».

## «МАЛАДОСЦЬ»

Друкуюцца вершы К. Кірэенкі, С. Адамовіча, В. Яраца, З. Марозава, А. Кашавога.

Чытачы пазнаёмяцца з апавяданнямі У. Міхно і І. Навуменкі, заканчэннем рамана В. Гігевіча «Мелодыі забытых песень».

«Плыві, рачулка, вечна!»—праблемы аховы прыроды закранае Я. Лецка.

«Раніца робатаў»—фотарэпартаж В. Ждановіча.

Да 80-годдзя выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» выступае Я. Саламевіч —«Выйшлі з светлага знання сяўбою».

П. Пруднікаў успамінае пра К. Чорнага—«Дарадца літаратурнай моладзі».

Р. Булацкі рэцэнзуе кнігу У. Ліпскага «Крутыя вёрсты» — «Вяртанне на дарогі вайны».

## «БЕЛАРУСЬ»

«На службе грамадству і Радзіме»—публіцыстычны роздум В. Быкава. Э. Скобелеў спрабуе глянуць у дзень заўтрашні — «Якой я бачу сваю будучыню?».

Змешчаны вершы А. Грачанікава, П. Пруднікава, С. Каробкінай, апавяданне Я. Пархуты «Чыжык», іранічныя карацелькі С. Паўлава.

«Кветка на далоні Расіі» — заканчэнне расказа М. Зяньковіча пра Савецкую Татарыю.

Штрыхі да партрэта мастака М. Селешчука напісала Т. Бондар—«Воблікі і вобразы».

Друкуецца ўрывак з рамана В. Коўтун «Крыж міласэрнасці» (да 110-годдзя з дня нараджэння Цёткі).

Пра беларускіх урачоў-інтэрнацыяналістаў расказвае В. Лапін—«Крыніцы Кабула».

Нарыс В. Вялеські «Вытокі шчасця» працягвае рубрыку «Літаратурны пост «Беларусі» ў падшэфным калгасе».

Друкуюцца таксама артыкулы Д. Лупача «Хлеб новага гатунку», І. Макаловіча «Гомельскія палімеры», успаміны Я. Крамко «Шумелі сурова лясы...», П. Карпекі «Той цудоўны ліпень», працяг нататкаў А. Вярцінскага «Мы, народы Аб'яднаных Нацый», іншыя матэрыялы.

## «НЕМАН»

Паэму У. Някляева «Наскрозь» пераклаў П. Кошаль. Паэзія прадстаўлена таксама вершамі Т. Лейкі.

Змешчаны апавяданні М. Кусянкова (аўтарызаваны пераклад У. Яцко), А. Карпюка (пераклад А. Часнаковай), заканчэнне рамана Э. Скобелева «Сведка».

«Рэформа ў школе і каля»—публіцыстычны роздум У. Верамейчыка.

Пад рубрыкай «У свеце навукі» публікуецца артыкул Ц. Панцюшэнкі «Пазнай самога сябе».

У гады вайны вяртае нарыс Д. Шаўчэнкі «Высокае неба камісара».

«Набыццё жанру»—слова В. Асноцкага аб прозе І. Чыгрынава.

«Сыноўні абавязак»—рэцэнзія Ю. Багданава на раман у вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці». Г. Цвяткова рэцэнзуе кнігу Т. Арловай «Купалаўцы»—«Партрэты ў інтэр'еры тэатра». З кароткімі рэцэнзіямі выступаюць І. Абель, У. Міхнюк, Ю. Аляксееў, Г. Дулеба.

Ёсць падборкі матэрыялаў «Чалавек і прырода», «Учора. Сёння. Заўтра».

# Неацэнныя скарбы

## ЭСТАФЕТА МЕТАФАРЫ

З ранніх юнацкіх год уразіла мяне знаёмства з паэзіяй Васіля Казіна. Уласна кажучы, не з усёй паэзіяй, а з тымі некалькімі вершамі, што былі тады вельмі вядомыя, уключаліся ў школьныя чытанкі як творчасць новых паэтаў.

Калі я пазнаёміўся з самім Васілём Васільевічам, старэйшым за мяне на трынаццаць год, першыя словы, якія я яму сказаў, былі:

**Было тихо, было видно дворнику,**
**Как улёгся ветер под забор**
**И позевывал, и вдруг с гармоникой**
**Гармонист вошел во двор...**

Сустрэліся мы ў доме творчасці, на кактэбельскай набярэжнай, а пазнаёміла нас мая ўнучка, сяброўка і равесніца яго ўнучкі.

Перада мной быў невысокі хударлявы дзядок — стройны, рухавы і нават, здаецца, без прыкметнай сівізны. Нешта задзёрыстае, хлапецка-маладзецкае высвечвала з яго вачэй. Васіль Васільевіч не без пэўнага здзіўлення, але з дапытлівай цікаўнасцю слухаў радкі сваёй далёкай маладосці. Ён, безумоўна, ведаў, што незвычайнасць метафары: вецер улёгся пад плотам і пазяхае — запомнілася многім і была як бы візітнай карткай яго паэта, але прыемна было ўбачыць, што гэтыя радкі зрабілі нечаканае ўражанне і на нашых унучак. Эстафета вобраза перадавалася ва ўсёй свежасці трэцяму пакаленню людзей, будзіла думку, фантазію, жаданне знаёмства і цікавасць — а што яшчэ напісаў паэт?

Вось вам лёс, гісторыя толькі адной метафары, магчыма, імажыніцкай, як пра найбольш дзёрзкія, смелыя і маштабныя вобразы маладой паэзіі пісала тады строга «навуковая» крытыка. Ярлык імажынізму раней і ў часы нашага юнацтва лёгка чапляўся на творчасць часцей за ўсё найбольш здольных, адметных самабытнасцю асобы і самабытнасцю бачання паэтаў. У імажыністы залічваліся і многія нашы беларускія маладнякоўцы, асабліва Язэп Пушча, незвычайнасць паэтычнага радаслоўя якога з выключнай дакладнасцю была ўжо выказана нават у самой назве яго першай кніжачкі: «Раніца рыкае». Здаецца проста, а якая аб'ёмнасць, цэлая карціна вёскі, што кагадзе прачнулася і разам з сонцам пачынае свой новы дзень. Першая магутная музыка вёскі — рыканне кароў, што ідуць на пашу.

У далейшым выпхнуты грубым нахабным плячом самаўпраўства з першай сваёй шчаслівай баразны ў літаратуры, паэт потым не знайшоў ніводнай метафары, роўнай па сіле вобразу раніцы, што ў полі рыкае.

Які там к чорту імажынізм, калі трапнасць, дакладнасць вобразнага мыслення былі ўласцівыя не толькі паэтам, а і людзям, што, будучы нават непісьменнымі, заўсёды думалі надзвычай метафарычна.

У мяне няма ні малейшае падставы абвінаваціць нябожчыцу-маці ў імажынізме, калі яна ўжо зусім старэнькай пра той жа вецер, які прынёс аднекуль непрыемны пах, стоячы ля хаты і хітравата ўсміхнуўшыся, сказала:

— Вецер у нейкае паскудства ўкачаўся...

Што ж тут дзіўнага, калі гэтая валацужная жывая істота, здольная завываць, выць па начах, палохаць нас, а ў добрым, лагодным настроі лашчыцца, лізаць нам рукі і ногі, раптам спакойным адвячоркам, на захадзе сонца зусім па-хатняму, даверліва заверне да нас у двор і, аббегаўшы паўсвета, уляжацца пад нашым плотам нанач.

**Было тихо, было видно дворнику,**
**Как улегся ветер под забор,**
**И позевывал...**

Цудоўная знаходка! Гэта ўжо тая неразменная каштоўнасць, з чаго складаецца высокая вартасць паэзіі.

Калі б Васіль Казін нічога болей не напісаў, а толькі гэтыя два-тры радкі, я яму пакланіўся б да самай зямлі.

Здольнасць, імкненне чалавека адухаўляць з'явы, рэчы і навакольную прыроду — бадай не толькі даўні спосаб спазнання (анімізм), але і галоўны сродак паэзіі: набліжэння да сябе ўсяго загадкавага, незразумелага і таямнічага. Метафара-стымул думкі, яна ж і ключ да адкрыцця тайны, спосаб утаймавання і нават прыручэння сіл, мацнейшых за чалавека.

Я рад, што і ў позніх свае гады асабліва люблю і адчуваю ўладу метафары. «Прыручэнне агню» — верш, у якім, мне здаецца, спалучыліся кампаненты вобразнай структуры, падначаленыя адной аснове: дабру, даверу, спагадзе. Нават стыхіі, залежныя ад чалавека і прыручаныя ім, могуць зняверыцца, калі ты здрадзіш ім, пакінеш у цяжкую хвіліну, і як верна, самааддана будуць служыць табе, адчуўшы тваю любоў!

## ПРАСТОРА ВОБРАЗА

Музычны памер яго традыцыйнай формы 3/4. Запазычыўшы калісьці ў маўрытан, іспанцы зрабілі яго сваім нацыянальным танцам.

Што можа стварыць геній на фальклорнай аснове? Незвычайнае дзіва на векі вечныя. Колькі страсці, азарту, парыву і ўзлёту ўклаў Марыс Равель у сваё «Балеро»! Але, можа быць, я ўпершыню ўбачыў яго магутнасць не толькі эмацыянальна, а і самы прыём, сам прынцып гарманізацыі: ад ніжэйшага да найвышэйшага — па закону спіралі, калі падымаўся на Эйфелеву вежу. Пад гэтым уражаннем потым быў напісаны верш «Балеро». Глыбока ўпэўнены ў творчай залежнасці, у вытоках адзінства Равелевага балеро з жалезнай метафарай Эйфеля: дух займае да вышыні, а ты намагайся яшчэ вышэй — з усіх сіл, пакуль можаш, дыхаеш!

Пэўна, гэта і ёсць галоўны закон развіцця, удасканалення, творчасці — ад простага да складанага, па спіралі: вышэй і вышэй. У рускай музыцы раней за Равеля гэта выдатна паказалі Глінка і Мусаргскі на прыкладзе «Камарынскай» і «Гапака», а ў наш час Шастаковіч у сваёй 7 сімфоніі — у тэме нашэсця, у супастаўленні, у барацьбе жыцця і смерці.

Логіка метафары, паслядоўнасць яе развіцця, узбуйнення, узбагачэння ўсё новымі асацыяцыямі, алегорыямі і апафеознае завяршэнне абагульненнем галоўнай думкі, ідэі — адзнака сапраўднага таленту. У рэчышчы гэтага даследавання найлепшы прыклад — паэзія Куляшова, сама прырода яго вобразнага мыслення, заўсёды падначаленага законам, самым строгім законам кампазіцыйнага кантрапункту, дзе кожны матыў, як правіла, залежны ад галоўнага і вызначаецца толькі патрэбай і неабходнасцю лагічнага развіцця тэмы.

Такая структурная аснова яго паэм і вершаў. Асабліва наглядна гэта можна прасачыць на цыкле «Юнацкі свет», на вершы «Ліст з палону», на паэме «Сцяг брыгады», на творчасці апошніх год.

Пасля Куляшова, мне думаецца, такое поліфанічнае мысленне найболей удаецца Рыгору Барадуліну, у якога метафара часта разгортваецца ў цэлы эпічны сюжэт.

## ВАЛ ВЕРШАТВОРЧАСЦІ

Як усякі вал прадукцыі і вал вершатворчасці траціць сваю каштоўнасць, сваю першароднасць, індывідуальныя адзнакі самастойнасці, асабістасці.

Ні валам, ні навалам вершаў не можна вызначыць творчую актыўнасць паэта. Чытача мы збіваем з тропу падобнай «актыўнасцю», калі ў адным нумары часопіса ён бачыць замест вершаў толькі т. зв. цыклы, падборкі вершаванага шырспажыву.

Верш, як карціна, мусіць быць у прасторы, сам ён павінен адчуваць паветра, а не задыхацца ў цясноце сабе падобнай наменклатуры. Так вярстаюцца ў нас і кнігі паэзіі — у падборку, верш за вершам — уваччу стракаціць ад радкоў, ад літар, а паэзіі няма!

## ЧАРАДЗЕЙСТВА СЛОВА

Хто яго ведае, з якіх глыбінных нетраў народнай паэзіі ідзе адчуванне харaства слова, яго чарадзейства і вясёлай гуллівасці — пэўна, з часоў, калі славяне гаварылі яшчэ на адной мове.

Ужо Ламаносаў добра разумеў гэта, калі запісваў сабе радкі з народнай песні: «По загуменью игуменья идет, за собою мать черна быка ведет». Хоць сам ён, Ламаносаў, у сваёй практычнай паэтыцы яшчэ, можа, і не мог пераадолець залежнасці ад вопыту сваіх літаратурных папярэднікаў, але сам па сабе факт яго захаплення дасканаласцю народнай паэзіі сведчыць, што ён разумеў — вопыт народа ў валоданні словам значна большы, чым паэтаў-прафесіяналаў. Сапраўды, гэтай «игуменье», што «по загуменью идет» ды яшчэ «за собой черна быка ведет», магчыма, не меней як паўтысячы год, а каштоўнасць яе нават у сучаснай паэтычнай валюце самая высокая....

Развіццё мовы народнай, практыка народнай філалогіі, безумоўна, ішлі наперадзе мовы афіцыйнай, дзяржаўнай, тым болей — царкоўнай. Рэлігіі і ідэалогіі, нават калі і неслі новыя ідэі, хутка касцянелі ў сваіх дагматах і ў сродках, а народнае мысленне развівалася. Развівалася і ўдасканальвалася мова. Сапраўдная паэзія заставалася паэзіяй праз вякі і тысячагоддзі: з яе відна жывая чалавечая душа.

Якія б дэспатычныя сістэмы і догмы не падначальвалі яго сабе ў імя сваіх мэт, як бы ні імкнуліся зрабіць яго рабом, нявольнікам зямных і нябесных улад, ён, чалавек, заўсёды падымаўся вышэй тады і там, калі заставаўся сабою, вольны і незалежны духам, натураю, характарам у слове, у песні, у танцы, у працы, у горы, бядзе, у спосабе мыслення. «Душой я вольны чалавек і гэткім буду ўвесь век». Цераз незлічоныя пакуты і страты ідзе прагрэс чалавека, не зважаючы на «прагрэсы», накіраваныя супраць чалавека.

## ЛЁГКІ ХЛЕБ І ДУРНЫЯ ГРОШЫ

Хто цяпер спявае, чый голас мы чуем? — радыё, тэлевізара, транзістара, магнітафона. А дзе ж жывы, чалавечы голас?

Яшчэ нядаўна чалавек спяваў па душэўнай патрэбе, па настрою, спяваў сам-насам, інтымна, запаветна, паціху, спяваў у гурце, у грамадзе ад радасці адчування еднасці з калектывам, цешачыся ў працы.

Чаму сёння нідзе ў родных прасторах не пачуеш жывога голасу, а толькі з чорнага раструбу на высозным тэлеграфным слупе — для ўсеагульнага гукавога запаўнення прасторы, але нідзе ні адна душа не адгукнецца, не настроіцца на яго заклік.

Сястра Тася расказвае:

— Цяпер, як вяселле ці праводзіны ў армію, дык стараюцца, каб са Слуцка музык наняць, сваіх не баруць. А слуцкія — дарагія, па чатырыста, па пяцьсот рублёў, а ўсё адно людзі адзін перад адным гатовы са скуры вылузацца, каб толькі болей фатыгі. А тыя гарадскія круцялі яшчэ болей цану набіваюць. Вунь з рэстарана прыязджалі. Паўключалі электрычныя гітары і той мікрафон, як тоўстую суслу, адзін траха не ў рот пхаў і ўсё завываў не па-нашаму — ніводнага слова не разабраць, а па-іхняму, мабыць, большай харашыні ўжо не можа быць, калі такія грошы дзяруць. Нашы капэлі па сёлах скрозь параскідаліся, а ў горадзе, кажуць, іх усё большае, ўсякіх арцельшчыкаў-свістуноў. Упадабалі лёгкі хлеб і дурныя грошы.

## НЕАЦЭННЫЯ СКАРБЫ

Чытаю песні з серыі, што выдае Акадэмія навук, «Беларуская народная творчасць» — неацэнны набытак нацыянальнай культуры, і я не прапусціў, здаецца, ніводнага тома. Хто ведае, калі яшчэ здарыцца такая падзея ў жыцці, такое, бадай, першае поўнае выданне народных скарбаў. Чытаеш — радуешся, цешышся — вось багацце, якога болей чым дастаткова, каб перад усім светам ганарыцца: паглядзіце, якім поўным духоўным жыццём жыў наш народ, паслухайце, як магутна, прыгожа гучыць яго слова! Калі грунтоўна даследаваць народную творчасць, можна ўбачыць не толькі тое, што ў ёй скарбніца мовы, паэзіі, але і невычарпальнасць вопыту выхавання чалавека, развіцця яго як асобы.

Яшчэ ні школа, ні нават вучоныя-педагогі не ўяўлялі сабе, як вучыць чалавека багаццям мовы ва ўсіх разнастайнавых сэнсах і гукавых магчымасцях слова, а нашы непісьменныя продкі ўжо і адкрывалі, і самі тварылі моўныя законы, дакладней сказаўшы — тварылі мову, як тварылі музыку. Найболей таленавітыя, найболей чуйныя ўдасканальвалі і адну і другую — і мову, і музыку, я заўважыў Глінка, аранжыравалі, але пачыналі не з тэорыі, не з правіл, а з практыкі, з вопыту, з непасрэднасці карыстання. Мы цяпер робім наадварот — вывучэнне мовы пачынаем ледзь не з першага класа ўжо з граматыкі, з раскладання слова на часткі, яшчэ не нацешыўшыся хараством яго гучання, сілай яго эмацыянальнага чарадзейства.

## ВА ЎСІХ АДЦЕННЯХ І ФАРБАХ

«Валачобныя песні» — чарговы том, выдадзены нашымі фалькларыстамі, дай ім бог здароўя і долі добрай — якую яны вялікую справу робяць для рэпутацыі, для аўтарытэту, для гістарычнай годнасці нашага народа.

Сапраўды, у вялікім славянскім свеце беларусы з іх духоўнымі скарбамі, з паэзіяй, казкамі, з мовай, якая ва ўсім хараstве і выключнай дасканаласці гучыць у фальклорных багацях, па праву занялі «пачэсны пасад між народамі», як пісаў Янка Купала. Якое тонкае адчуванне слова ва ўсіх яго адценнях і фарбах! Народ-паэт тварыў яе, сваю мову, па прыродзе, па законах, уласцівасцях і формах, якія ён сам адкрываў: «А ў яго на дварэ а стаіць сасна», «У яго на дварэ а зялёны явар». Ды гэтаму «а», адной гэтай літары, аднаму гуку, для паэзіі, для песеннага поўнагалосся цаны няма! Купала гэта добра адчуваў: «Прыйдзе новы, а мудры гісторык»!

Васіль ВІТКА

ПРЭМ'ЕРЫ



Сцэна са спектакля.

**Новую пастаноўку оперы П. Чайкоўскага «Яўгеній Анегін» ажыццявіў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР. Музычны кіраўнік і дырыжор — М. Калядка, мастак-пастаноўшчык — Д. Мохаў, рэжысёр — В. Шышоў, хормайстры — народны артыст БССР А. Кагадзееў і Г. Луцэвіч. Танцы пастаўлены В. Бутрымовічам. У галоўных партыях заняты народныя артысты БССР І. Шыкунова, А. Саўчанка, народны артыст РСФСР Э. Пелагейчанка, заслужаныя артысты рэспублікі Н. Казлова, М. Майсеенка, В. Скорабагатаў, артысты Н. Галеева, Н. Губская, В. Цішына і інш.**

Фота Ул. КРУКА.

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# ФАРБЫ ГІСТОРЫІ

Для аматараў гісторыі і культуры нашага краю вялікую цікавасць уяўляе новая кніга В. Церашчатавай «Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI — XVIII стст.», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка». Яе аўтар вядомы беларускі мастацтвазнаўца, загадчык сектара і Музея старажытнабеларускай культуры АН БССР, нястомны збіральнік і даследчык помнікаў мастацкай культуры нашага народа. Асабістыя навуковыя інтарэсы В. Церашчатавай сканцэнтраваны менавіта вакол гісторыка-мастацкіх праблем манументальнага жывапісу, што ў выніку прывяло да стварэння гэтай вельмі патрэбнай працы, якая абагульняе папярэднія разрозненыя даследаванні і значна ўзбагачае іх новымі адкрыццямі. Дагэтуль у беларускай мастацтвазнаўчай літаратуры існавала толькі некалькі артыкулаў, прысвечаных асобным творам старажытнага манументальнага жывапісу Беларусі, адпаведныя раздзелы і фрагменты буйных даследаванняў па гісторыі мастацтва Старажытнай Русі, Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

У манаграфіі В. Церашчатавай упершыню поўна, з пазіцый сучаснага савецкага мастацтвазнаўства, асветлена сацыяльна-гістарычная значнасць старажытнабеларускага манументальнага жывапісу, прааналізаваны сродкі яго мастацкай выразнасці. Аўтар слушна адзначае, што манументальны жывапіс, як ніводзін з іншых відаў мастацтва, адгукаецца на актуальныя задачы ідэалагічнага жыцця, фарміруе этычны і эстэтычны ідэал, больш тонка рэагуе на стыль і час.

Трэба адзначыць, што на шляху даследчыка існавалі вялікія цяжкасці. Манументальны сценапіс Беларусі — мастацтва трагічнага лёсу. Звязаныя непасрэдна з помнікамі архітэктуры фрэскавыя роспісы гінулі разам з імі ў пажарах шматлікіх войнаў, часам груба паднаўляліся або забельваліся пры рамонтах ці псеўдарэстаўрацыі свецкіх і культавых збудаванняў. Таму да нашага часу іх зберагллося вельмі мала і ў стане, які вымагае тэрміновай навуковай рэстаўрацыі, стварэння адпаведнага тэмпературна-вільготнаснага рэжыму і інш. Навуковы аналіз і абагульненні праводзіліся В. Церашчатавай і яе калегамі паралельна з практычнымі работамі па раскрыцці і фіксацыі фрэсак.

Ва ўводзінах аўтар з жалем піша: «Страты ў галіне старажытнага манументальнага жывапісу вельмі значныя. Можна назваць цэлыя гістарычныя эпохі і геаграфічныя рэгіёны, дзе не захавалася ніводнага помніка, хоць пра іх наяўнасць сведчаць шматлікія архіўныя і літаратурныя крыніцы».

Акадэмік І. Грабар адзначыў, што для аднаго дня сінтэзу трэба дзесяць год аналізу. Аўтарам затрачана шмат намаганняў і часу, каб колькасць перайшла ў якасць. Ёю выкарыстаны амаль усе магчымыя крыніцы: літаратурныя, архіўныя, натурныя, каб прыйсці да трапных і дакладных высноў аб спецыфіцы кожнага з этапаў развіцця манументальнага жывапісу, канкрэтызацыі ролі візантыйскіх і заходнееўрапейскіх уплываў, характарыстыцы своеасаблівых рыс нацыянальнай эстэтыкі.

Каб адлюстраваць усе бакі праблемы, даследаванне пабудавана па храналагічным прынцыпе. Кожнаму этапу развіцця манументальнага жывапісу Беларусі, які вызначаецца цэласнасцю гісторыка-мастацкіх характарыстык, прысвечаны асобны раздзел.

Кніга адкрываецца разглядам помнікаў мастацтва сценапісу перыяду старажытнарускай дзяржавы. Манументальныя мураваныя збудаванні таго часу багата ўпрыгожваліся фрэскавымі роспісамі. У інтэр'еры сцены, слупы, скляпенні аздабляліся жывапіснымі кампазіцыямі з біблейскімі і евангельскімі сюжэтамі; выявамі святых. У іх трактоўцы існаваў пэўны канон, які вызначаўся ў першую чаргу візантыйскімі філасофска-эстэтычнымі поглядамі, спалучэннем эліністычнага антрапамарфізму з спірытуалістычным пачаткам. Але ўжо на той час фрэскавыя роспісы заходнерускіх зямель, у прыватнасці Полацкага княства, «засвойваюць найбольш характэрныя, найбольш выразныя і яркія рысы нацыянальнага характару і традыцый». Аналагічны працэс адбываўся ў мастацтве Арменіі, Грузіі, Балгарыі, Сербіі і іншых краін, успрыняўшых традыцыі візантыйскай культуры.

Фрагменты ўцалелых фрэсак старажытных храмаў Полацка, Бельчыц, Віцебска, «полацка-віцебскай даўніны» ўжо даволі глыбока вывучаны краязнаўцамі, археолагамі, мастацтвазнаўцамі. На падставе матэрыялаў, апублікаваных А. Сапуновым, М. Вароніным, І. Хозеравым, М. Шчакаціхіным, П. Рапапортам, В. Булкіным, Г. Штыхавым, А. Сяліцкім і інш. і ўласных даследаванняў, В. Церашчатава жыва, эмацыянальна праводзіць мастацтвазнаўчы аналіз помнікаў манументальнага жывапісу XI — XII стст. Полацкай Сафіі, Пятніцкай царквы Бельчыцкага манастыра, Спаса - Праабражэнскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку, частка якіх у апошні час самараскрылася. У шэрагу выпадкаў В. Церашчатава пераканаўча палемізуе з папярэднікамі з улікам аналагаў, адметнасцей жывапіснай тэхнікі і інш.

Другі раздзел ахоплівае развіццё манументальнага жывапісу ў перыяд фарміравання беларускай народнасці (XIV—XVI стст.). Менавіта ад гэтага часу не захавалася ніводнага ўцалелага помніка. Заслугоўвае павагі імкненне аўтара па кавалачках стварыць цэласную карціну мастацкай культуры гэтай эпохі. Гістарычна абгрунтавана прыцягнуты для даследавання так званыя «рускія фрэскі» ў Сандаміры, Вісліцы, Любліне, створаныя ў час праўлення ў Рэчы Паспалітай дынастыі, заснаванай Ягайлам, які запрашаў да сябе прыдворнымі жывапісцамі праваслаўных беларускіх майстроў. Да гэтага ж часу адносяцца фрэскі супрасльскай Благавешчанскай царквы — помніка беларускай готыкі. Яна разбурана нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час Вялікай Айчыннай вайны, і толькі часткова ўцалелыя фрагменты роспісаў захоўваюцца ў беластоцкім музеі. Добра валодаючы архітэктурнай тэрміналогіяй, аўтар трапнымі штрыхамі адлюстроўвае змену стыляў у беларускім дойлідстве, у той час як у фрэсках яшчэ даволі трывала захоўваюцца візантыйскія традыцыі.

Найбольшую цікавасць уяўляе трэці раздзел, прысвечаны манументальнаму жывапісу XVII — пачатку XVIII ст. Магчыма, таму, што менавіта ў гэты час ішоў працэс складвання нацый і мастацтва ўсіх славянскіх народаў набывала адметныя, характэрныя рысы. У гэтым раздзеле разглядаюцца сценавыя

В. Церашчатава. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мінск, «Навука і тэхніка», 1985.

# ЛЮБОЎ ДА КРАЮ, ДА НАРОДА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

Яна ўжо ў «Ідыліі». Але радзіма ў гэтым творы—родны, любы край, які не мае назвы, хоць **паненка** Юлія і размаўляе **па-беларуску.** Ды вось у 1855 г. выходзіць кніга «Гапон» з аднайменнай аповесцю, поўная назва якое чытаецца так: «Гапон, беларуская аповесць, з праўдзівага здарэння на мове беларускага люду напісаная». У гэтым жа годзе В. Дунін-Марцінкевіч піша музычнаму крытыку Юзафу Сікорскаму: «...я пад старасць зрабіўся песняром беларускага народа». Праз два гады выходзіць кніга «Дудар беларускі», у якой змешчаны ліст да У. Сыракомлі і вершаванае апавяданне «Літарарскія клопаты». З гэтых твораў вынікае, што В. Дунін-Марцінкевіч яшчэ быў у палоне традыцый і падзяляў наш край на дзве часткі: на Літву і Беларусь. Паездка на паўночны ўсход ад Мінска (на Беларусь) была для яго настолькі важнай падзеяй, што ён апісаў яе ў «Літарарскіх клопатах». У гэтым апавяданні, як і ў лісце да У. Сыракомлі, пісьменнік паказвае, у якой складанай сітуацыі даводзілася яму пісаць і друкавацца. То быў час, калі новы цар, Аляксандр II, заняты іншымі справамі, яшчэ не кінуў свой «августейший» позірк на Беларусь. Карыстаючыся гэтай акалічнасцю, В. Дунін-Марцінкевіч выдае чатыры кнігі запар на працягу трох гадоў. Але вось выдавец Бейлін кажа Дудару:

...вас ніхто не знае, хіба
што сяляне.
Нашто вы па-мужыцку
пішаце, мой пане?

Кніга выйшла. Як яе ўспрыняло «адукаванае грамадства»? «Мужыцкі твор, якісь «Купала» (маецца на ўвазе аповесць В. Дуніна-Марцінкевіча.—**А. С.**). «Ah mon Dieu! Як можна мову так паскудзіць! Кінь гэтыя грымзолы, каб рук не пабрудзіць! Не сорам вам хваліць плюгаўства, мілы пане? Хіба для фурманоў такое вось чытанне!».

Паэт са смуткам канстатуе, што ў шляхецкіх пакоях

**...модныя паненкі, панічы**
**і пані**
**У самым наймаднейшым**
**дарагім убранні;**
**Французскі звычай там,**
**французская і мова,**
**Свайго радзімага там**
**не пачуеш слова.**
**Раскошы тыя ўбачыўшы,**
**пачуўшы мовы тоны,**
**Падумаеш: Парыж тут**
**адчыніў салоны.**

Нават творы на польскай мове не карыстаюцца ў гэтых пакоях пашанаю. Звяртаючыся да У. Сыракомлі, В. Дунін-Марцінкевіч піша:

**...не вер, што модныя салоны**
**З ахвотаю твае хапаюць**
**творы,—**
**Для іх мілейшыя чужыны**
**плёны,**
**Рамансы франкаў—вось**
**чытання ўзоры.**
**А ліра свойская ўзбуджае**
**смехі—**
**Яна для чэрні, пад гнілыя**
**стрэхі!**

Мы помнім, што любіць сваю краіну для аўтара «Ідыліі» азначала любіць свой народ. І хоць у В. Дуніна-Марцінкевіча былі сябры сярод заможнай шляхты (прыкладам, брат дзекабрыста, маршалак бабруйскай шляхты Аляксандр Лапа), хоць на ягоны пераклад «Пана Тадэвуша» падпісаліся два князі, колькі памешчыкаў ды багата каталіцкіх духоўных асоб і службоўцаў, быць песняром беларускага народа азначала найперш быць паэтам сялян і для сялян. Такая была аб'ектыўная рэальнасць. Яна і прадвызначала дэмакратычны характар нашай літаратуры ў XIX ст.

Пішучы для сялян, В. Дунін-Марцінкевіч дбаў пра паляпшэнне нораваў. Таму ягоныя творы поўныя дыдактызму, таму ў іх рамантызм спалучаецца з сентыменталізмам. Беларускі Дудар піша і пра цяжкое становішча сялян, пра занядбаныя палі, пра сваволю паноў, хоць, праўда, гэта менш кідаецца ў вочы. Паэт паказвае нам Халімона Забалотнага, які не разумее новых нораваў, нораваў капіталістычнага грамадства, з якімі сутыкнуўся ў «першапрастольнай» сталіцы. Халімону дзіўна, што «за добра дзела плаціць хрысціянам ў голаве прыспела». Ён кажа: «За спамогу бліжнім не хачу я зыску...». У творах для сялян сяляне выступаюць і як носьбіты нацыянальнай свядомасці. «Нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!» — выгуквае Навум Прыгаворка, ад імя якога напісаны «Халімон на каранацыі». У быліцы гаворка ідзе пра «беларуску чэсць». З гэтага можна зрабіць выснову, што нацыянальнае пачуццё паэт разумее як пачуццё маральнае. Высокая маральнасць немагчыма без патрыятызму, і наадварот. Гэтую думку В. Дунін-Марцінкевіч праводзіць і ў іншых творах.

Нельга сказаць, што Навум Прыгаворка ідэалізаваў селяніна. Калі ў 50-я гады ён бачыць пагрозу норавам у п'янстве і распусце, дык у 60-я убачыў і вывеў новы тып мужыка—нахабнага і цынічнага махляра Антона Сабковіча, які з пастушка вырастае ў аканома, потым—у арандатара, які лічыць, што сумленне — глупства, што «яго астаткі Уцяклі даўно да Вяткі».

У гэтых словах Сабковіча бачыцца думка самога В. Дуніна-Марцінкевіча. Ён ужо стары, ён перажыў трагедыю 1863—1864 гг., у ссылцы ягоная дачка, ён сам быў у астрозе і не мае права выехаць за межы свайго фальварка. Пачаўшы пісаць пра Сабковіча ў вершаваным апавяданні «З-над Іслачы, або Лекі на сон», пісьменнік засяродзіць увагу на гэтым тыпе ў другім творы — у фарсе-вадэвілі «Залёты». Злачынец, зламыснік павінен перавыхавацца або зло павінна быць пакарана!—патрабуе традыцыя XVIII ст. Побач з Сабковічам «...знойдзеш ...у ліп нашых ценю Людзей, што хочуць сэрцам жыць, а не кішэнню», — сцвярджаў Навум Прыгаворка ў апавяданні «З-над Іслачы...». Такіх людзей ён знайшоў... сярод шляхты. І гэтыя людзі вывелі Сабковіча на чыстую ваду ў «Залётах». Вядома ж, аўтар паграшыў супраць гістарычнай праўды, пярэчыў сам сабе («яго астаткі Уцяклі даўно да Вяткі»), ды што зробіш: аўтар заставаўся сынам Асветніцтва і сынам свайго класа.

Не, і свой клас ён не ідэалізаваў. Пра гэта найяскравей сведчыць гістарычнае апавяданне «Люцынка, або Шведы на Літве», напісанае па-польску, г. зн. найперш для шляхты. Пралог да твора—пахвальнае слова роднаму краю. А канчаецца ён такімі словамі: «Гэта пыха магнатаў, свавольства без краю Вінаваты, што гром нас нябесны карае». Вуснамі свайго героя В. Дунін-Марцінкевіч так тлумачыць прычыну заняпаду Рэчы Паспалітай: «Не кароль-чужаземец вядзе край да згубы. А пыхлівая шляхта, паны-самалюбы».

Галоўная думка твора, прысвечанага падзеям Паўночнай вайны, у тым, што шляхціц павінен быць патрыётам, падпарадкаваць сваё жыццё інтарэсам Айчыны. Яшчэ трохі раней, у меладраме «Апантаны», пісьменнік з сумам канстатаваў, што ў шляхецкіх заможных сем'ях дзяўчат «Не вучаць пераймаць даўнейшай цноты, Не вучаць шанаваць прапрадзедаў учынкі», што іх выхоўваюць у духу франкаманіі і ў няробстве. Паэт пытаў: «Дзяўчо, якое так муштруюць ад дзіцяці, Ці можа добрай дочкай быць, стаць жонкай, маці, Сапраўднай грамадзянкай нашае краіны?» Гэта пытаў бацька будучых удзельніц паўстання. У «Люцынцы...» ён са смуткам адзначае, што моладзь 50-х гадоў бавіць час за прэферансам, пляткарыць. Асабліва яго турбуе, што юнакі не займаюцца вайсковай справай: «Шабля ў доме ўжо цуд, хто яе прыпасае?». Напярэдадні 1863 г. гэтае пытанне В. Дуніна-Марцінкевіча гучыць як заклік.

Выхаванню патрыятычных пачуццяў служыла і другое гістарычнае апавяданне—«Славяне ў XIX стагоддзі».

У XIX ст. у шляхецкім асяроддзі працягваецца працэс размежавання і палярызацыі сіл, які пачаўся ў XVIII ст. і найбольш ярка выявіўся ў час касцюшкаўскага паўстання. Прагрэсіўныя прадстаўнікі прывілеяванага класа вярталіся да народа. Царызм, распраўляючыся з філаматамі і філарэтамі, з паўстанцамі 1830 — 1831 гг., пазбаўляючы шляхецкіх правоў дробных і нават сярэдніх дваран, усяк абмяжоўваючы іх, толькі прыспешваў гэты працэс. Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля), Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Рамуальд Падбярэскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Кастусь Каліноўскі, Фелікс Тапчэўскі, Францішак Багушэвіч... Лепшыя прадстаўнікі шляхты выйшлі ў 1863 г. на змаганне за зямлю і волю для сялян, загінулі ў баях і на шыбеніцах, вымушаны былі пакінуць радзіму, апынуліся ў ссылцы (вось чаму астаткі сумлення «ўцяклі... да Вяткі»). Прыклад паўстанцаў паклікаў на змаганне рэвалюцыянераў наступнага пакалення — «царазабойцу» Ігната Грынявіцкага, Адама Гурыновіча, Каруся Каганца... Паўстанец Чаховіч паўплываў на юнага Яся Луцэвіча—вялікага Янку Купалу.

Але была і тая шляхта, якая пайшла на кампраміс, здрадзі-

## ПАЭЗІЯ

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ



### Скаргі

На чукалках-выбоінах я ўзмок.
Быў самы вільчык лета.
Я кіраваў на хутарок,
Каб у Гомель перавезці паэта.

Ён там на вышках загасцяваў,
На сене з духам мядовым.
Вершы пісаў і скаргі слаў
У высокія установы.

Аб тым, што талент зусім
зачах,
Што жыве на чужых харчах,
Што нідзе яго не друкуюць,
Толькі ведаюць — крытыкуюць.
Што нідзе ў яго, блукара,
Няма ні кала, ні двара...

Таленты трэба расціць,
вядома,
Каб *сягалі ў творчыя высі.*
Мне пазванілі з творчага дому.
Сказалі:
— Едзь, разбярыся!
Тут пашыраецца Каралькоў, —
Бясконцы наш клопат хатні, —
Хай засяляецца на пару гадкоў,
Як жа яго там?
Ратнеў!

Чыталі, чыталі.
Піша багата.
Але аптымізму ў яго малавата
І нейкі завужаны кругагляд.
Словам, вяртай яго ў горад
назад.
Хай падумае, абжывецца,
Можа, тады весялей
запяецца...

І вось я трасуся па бальшаку
На «газіку» ў пыле і поце.
Раптам бачу:
Узнімае руку
Мужчына на павароце.

— Да Дзятлавіч, —
просіць мяне. —
Падвязеш?
Тут кіламетраў дзесяць.
Па гэтым пяску марудна
брыдзеш,
Ногі ледзь прысак месяць.

— А як жа, — адказваю, —
Падвязу!
Мужчына з палёгкай смяецца:
— Можа, ў дарозе пад колы
лазу
Разам цягаць давядзецца.

Зноў падарожны пыл
запяршыў.
Дзядзька адхекаўся, закурыў.
І праз якіх там пятнаццаць
хвілін
Быў ён мне, як бацька,
Яму я — як сын.

Пра гэта я ведаў яшчэ і раней:
Заўсёды дарога яднае людзей,
Не тая, што жартам гавораць:
як лоб,
А тая, дзе ўся — за калдобам
— калдоб.

Дзядзька не дужа быў гаваркі,
Што зробіш, і сам я, напэўна,
такі.
Аднак пацікавіўся:
што за планіда
У горад вадзіла яго, інваліда?

Дзядзька рукою махнуў:
— Не кажы!
Хоць ты самому ўжо скаргі
пішы
Пра тое, што скаргамі заваліў
Інстанцыі розныя наш тут
адзін.

І едуць камісіі розныя, едуць,
Ні паабедаць табе,
ні паснедаць.
Ніяк не ўсталюецца
ў вёсцы зацішша,
Бо ён усё піша...
Бо ён усё піша...

То шыферу трэба, то цэглы,
то лесу,
То адшукае «изъяны» прагрэсу.
— Я, — кажа, — ніколі
не буду маўчаць,
Прывык я «изъяны
изобличать»!

І летам гарачым, і сцюжнай
зімою
Возімся ўсе з ім,
нібы са скулою.
Ледзь што не па ім,
то ён прэ на таран:
Я, кажа, мінулай вайны
ветэран!

Як быццам усе мы вайну
тут праспалі,
Як быццам мы з ворагам
не ваявалі,
Нібы пагарэлі не нашы
тут хаты,
Нібы ўсе ў жывых —
партызаны, салдаты.
Вунь, колькі вякуе ўдоў
у салдатках.
Хто ім дапаможа
ў парэпаных хатках?
Калі састарэлым
ім не дапаможам,
Як глянуць сумленна ў вочы
ім зможам?
А гэты штукарыць, а гэты —
грабе
І справа і злева і ўсё
пад сябе!

Вось зноў напісаў,
што не далі каня
Яму звезці сена.
А я — старшыня.
Не, не калгаса,
а сельсавета.
Ён напісаў — я ў адказе
за гэта.
Што зробіш, як кажуць,
закон ёсць закон.
Вазіў тлумачальную
сёння ў раён.
Вядома, гуманны і добры
наш лад,
Але і праблем жа тут многа,
Калі крыкуна-аглаеда такога
Не можа ніхто асадзіць з нас
назад.
Сапраўдны герой — хто
заўжды ў барацьбе,
Не будзе ў народа сядзець
на гарбе!

Я слухаў балючую споведзь.
Маўчаў
І «газік» па жоўтых
выжарынах гнаў
І думаў пра тое, што часта
і сам
Дапамагаў вось такім
крыкунам.
А той, у каго сапраўды
набалела,
І для падтрымкі наспела
пара, —
Па завядзёнцы народнай,
нясмелай
Свой боль не наніжа
на кончык пяра.
Яго пры імклівым руху
няможна
Нам прамінуць,
нібы знак дарожны.
Бо гэты нястрымны,
калдобісты рух
Злучае ўсіх нас
у жыццёвы ланцуг.

## ПРОЗА

## абраз-кі



Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

### Даспявала збажына

Зіхоткія гусеніцы падмялі высокі пырнік, зрабілі абарот і блізка ад узмежка знерухомелі. Долу гоцнуў цельпукаваты, з бялёсымі, быццам грыўкі сіўцу, брывамі, з аблупленым кірпатым носам Павел Дуднік. З-за няспешнай хады больш звычайнага касалапячы, ён падышоў да паніклай збажыны, ссунуў на патыліцу замусоленую шапку, загроб жмут каласоў, схіліўся над імі.

«Зноў нешта ўдумаў. Зноў чакай фокусаў, — скаланула хударлявы, запушаны кволенькай шчэццю, загарэлы Задораў твар нервовая дрыготка. — Ну і штукар! Быў бы маладзейшым — хутка б я абламаў цябе. Па струнцы хадзіў бы».

Не падабаўся яму падначалены. Са знаёмства не ўзлюбіў яго брыгадзір.

Дуднік акурат акамянеў. Як стаў, дык і не зварухнуўся.

«Слупняк хапіў! — раз'ярыла хлопца. — Ото работнічка бог паслаў!»

Не памятаючы сябе, Задора пакінуў трубаўкладчыкаў.

— У чым справа? — запыніўся побач.

— Гляджу во, — тузнуліся Дуднікавы бровы.

— І што ўбачылі?

— Зеленкаватая збажына яшчэ.

— Якое вам дзела да яе?

— Тыдзень бы ёй пастаяць — выспела б акурат.

— Няхай не баліць ваша галава па нейкаму ячменю.

— Гэта — жыта.

— Тым больш! — узарвала Задору. — Дакуль будзеце тырчаць тут? Кожная мінута дарагая. У мяне план. Капайце далей.

— Як?!

— Прама.

— Па збажыне?! — не паверыў Павел Дуднік.

— Колькі той збажыны.

— Усё-ткі ж.

— Наша дзела маленькае. За нас іншыя падумалі. Мудрэйшыя галовы планавалі провад. Відаць, даўно спісалі гэтае жыта. Нам загадана пракласці трубы, і мы, згодна схеме, — паляпаў брыгадзір па планшэтцы, якая вісела пры боку, — пракладзём іх. Сядайце, Дуднік, за рычагі.

— Не... не!

Павел тузануўся і наўздзіў шустра падрабязіў прэч.

— Куды вы? — памкнуўся ўтрымаць Задора.

— Блізка вунь.

— Стойце, кажу!

— Вярнуся зараз.

— Самавольства!.. Анархія! — не ведаючы куды падзець сябе, заснаваў брыгадзір. — Гэтага я не пакіну так! Хопіць! Нацярпеўся. Накручу хвост! Сам напрасіўся. Няхай не крыўдуе!

Чырвоны ад гневу, ён падбег да трубаўкладчыкаў, стаў перад хударлявым, даўгім, што вудзільна, пабеленым сівізной, старэйшым за ўсіх у брыгадзе Восіпам Трацяком.

— Сямёнавіч, хадземце, падмяніце Дудніка.

— Я — шафёр, — сціпла кашлянуў той.

— Не бяда.

— Не мой то клопат.

— Прашу вас!

— Я не ведаю ўстройства Дудніковай капалкі. А калі б і ведаў, то ўсё адно не ўзяўся б за чужы гуж. Павел — не хлапчук. Павел не любіць, каб хтосьці лез яму пад руку. Таму — даруй, Канстанцінавіч, не прасі.

— О, брыгадка падабралася! — усклікнуў Задора. — О, парадачкі! — Крутнуўся. — Прыйдзецца ўсё-ткі таму-сяму падцягнуць гайкі!

Хлопец адбегся і заснаваў уздоўж канавы: крокаў дзесяць туды адмерваў, столькі ж назад рабіў; няўрымсліва сноўдаў, памінутна бліскаў гадзіннікам: колькі там адсутнічае неслух?

Заявіўся Дуднік з касой і віламі. Не зважаючы ні на знямелых рабочых, ні на разлютаванага брыгадзіра, ён тут жа падзынкаў мянташкай, затым па напрамку канавы зачаў валіць жыта.

— Чарговага коніка выкідваеце? — скокнуў наперад хлопец. — Загадваю: канчайце самачынства!

— Тут нядоўга, — не запыняючыся, даволі міралюбна вымавіў Дуднік. — Паўгадзіны, не больш затрачу. Пасля сваё наганю.

— Вы... вы... — затрэсла Задору, — вы — разгільдзяй!

— Дарэмна крычыш на чалавека, — падышоў Трацяк. — Думай, што кажаш, начальнік.

— І вы ў тую ж дудку зайгралі?

— Супакойся, Канстанцінавіч, — парадкуючы скошаную збажыну, замільгаў віламі шафёр, — і будзь ласкаў, выбірайся адтуль, не дратуй жыта.

— Што-о-о?!

— Не тапчыся, гавару, не псоць дабро. Людзі яго пасеялі, па-людску трэба з ім і абыходзіцца.

Акурат аглушаны, хлопец на паўслове змоўк, зніякавеў і асцярожна ўзняў нагу, ступіў раз, другі.

### Смага

Распаленае да белізны пасляабедзеннае сонца нагадвала зіхатліва-асляпляльную лужыну. Ад яго пякельных промняў нідзе нельга было схавацца. Яны прашывалі самыя густыя шаты, пратыкаліся то адтуль, то адсюль. І куды б ні сунуўся — гарачынёй патыхала. Нават сярод непралазных гушчарнікаў задуха трымалася.

Разморанырыя, знясіленыя, пазашываліся кудысьці птушкі, змоўклі, ні гуку не падавалі. Абзываўся толькі сівы крумкач; сядзеў з распушчанымі крылламі на сухаверхай яліне ды не-не лянотна разяўляў глюгай: кр-р-у-ум, кр-р-у-ум.

Ён не цёгся, не віжаваў па баках, як звычна, а крочыў таропка, лавіраваў між дрэў. Яго мала вабілі грыбы, асабліва адзіночныя сыраежкі. Яму піць хацелася. Смага даўно ўжо марыла. Таму глядзеў больш, каб асвяжыцца. Шукаў ручаінку ці хоць калдобіну. На жаль, ні тое, ні другое не траплялася.

Ускрай верасковай выжарыны сярод машку пад дубкамі стрэлася даволі вялікая неруш маладых лісічак. Без асаблівай ахвоты апусціўся над імі, пачаў рэзаць.

Разагнуўся мінут праз дзесяць, выцер далоняй потны лоб, аблізнуў перасмяглыя губы, зіркнуў управа, улева; убачыў куст чорных пераспелых ажын; не раздумваючы, наблізіўся, ухапіўся латашыць салодкія ягады.

З'еў жменю, другую — смага не праходзіла, а наадварот, здавалася, распальвалася мацней.

«Не, больш не магу! Пайду. Тут у лесе непадалёку вёсачка дзесьці. Пашукаю».

Ламіўся напрасткі. На грыбы ўжо не звяртаў увагі. Думаў аб адным: як бы хутчэй прагнаць спапяляючую нутро пакутлівую смагу.

Ці то прыдалося, ці то сапраўды ўлавіў, як з-за сцяны хвойніку павеяла ўдушліва-прынадным пахам.

«Што б так водарыла?» — здзівіла.

Забываючы пра стому, угнуў галаву, пашыўся праз лапнік.

Не зрабіў і дваццаці крокаў — апынуўся ля ахопленага жоўтай квеценню лубінавага поля. Стаў, міжвольна знямеў: харaство!

Не адразу, толькі калі ачомаўся, калі мінула захапленне, заўважыў па другі бок нешырокай касы пад затулкам жыдкаватых купак дрэў тры будыніны: адну бліжэй, дзве — далей.

«Раней быццам бы большай вёсачка выглядала, — мільганула думка. — Відаць, сцураліся асобныя яе».

Пасігаў па вузенькай, пракапычанай дзікамі, сцежцы.

«Зараз спатолюся, — каўтнуў кадыком. — Вада тут, памятаецца, сцюдзёная. Ні даць, ні ўзяць — зубалом».

Да хаты наблізіўся з глухой сцяны. Прайшоў затравелым гародчыкам, шумна мінуў кусты парэчак і, аж хіснуўся назад, запыніўся, затаптаўся — колішняе жытло спаткала нечаканай нявеітласцю: дзверы былі шчыльна забіты, а вокны наадварот зеўрылі чорнымі ямінамі-праваламі.

Мелькам ён убачыў праз адзін праём абарваную, павіслую, напэўна, ад фіранкі, тасёмку, край пачарнелага стала, на супрацьлеглай сцяне абрамлены шырокім акладам перакошаны вялізны здымак маладой пары — мужчына і жанчына са схіленымі адзін да другога галовамі, і чамусьці згорбіў спіну, баязліва азірнуўся, хрупнуў шклом, ледзь не на дыбках падаўся прэч.

Дзе аслабелае лопне звяно —
Болем праніжа ўсіх нас яно.
Хай не сціскаюцца
мускулы ў целе:
Не паспяшаліся...
Не дагледзелі...

А як жа паэт?
Перавёз я паэта.
Аўтограф мне свой
ён пакінуў за гэта.

●

Чым вякам ты пахвалішся,
У вяках чым праславішся,
Час маторны і мутарны,
Электронны, камп'ютэрны?

Мастакамі,
Паэтамі,
Светлай доляй людскою?
Можа, толькі ракетамі,
Што вісяць над табою?

Можа, сонцам прыручаным.
Каб — ні смерчаў, ні сцюжы?
Акіянам атручаным,
Амярцвеласцю сушы?

У раз'ятраным гудзе і брудзе
Чуеш, час, што адказвае нам:
— Чым сябе вы праславіце,
людзі,
Я дарэшты вякам перадам!

## Помнік

Дыктатар мікрадзяржавы
Перад тым, як сканаў,
Ад свербу прывіднай славы
Помнік сабе рыхтаваў.

Сам прыкінуў эскізы,
Праект ухваліў свой сам.
І — разасланы візы
Лепшым у свеце майстрам.

Але не ўлічыў ён штосьці:
Мішурацца і ўладары.
Не йдуць і не едуць госці —
Лепшыя ў свеце майстры.

Збіўшы настрой манікальны,
Які яго гнёў даўно,
Зірнуў ён са спачывальні
На плошчу ў бронеакно.

Залапаталі бровы,
Як ад містычных праяў:
Там яго шматметровы
Помнік ужо стаяў.

Было ўсё, як на паперы.
Дыктатара ж сцяў адчай:
Цень вялізнай сякеры
Крывавіўся з-за пляча.

Як паслугачы ні збівалі
Яго што ночы, што дзень,
Як помнік той ні знішчалі, —
Дагэтуль крывавіцца цень!

## Калі давяраецца маці сын...

Рыгор Барадулін
Да ранку не спіць.
Пакутна ўзор паэтычны
тчэцца.
На Ушаччыне гром
прагрыміць —
Дождж на Палессі
пральецца.

Марозам каляным
Сцяла Сібір.
Прэе ў субтропіках глеба.
Паэт — словалюб,
Паэт — любамір,
Сын роднай зямлі і неба.

Бачыць усё на экране душы.
Голас нябёсаў чуе.
Паэт, сумуючы па цішы,
Спакой раўнадушша карчуе.

Дзіўныя птахі спяваюць над ім,
Хаця свет трывогі множыць.
І горка-салодкі Айчыны дым
Памяць яго трывожыць.

Пакуль рука трымае пяро
На беразе Ушачкі, ці Сожа,
Верыць паэт:
Перамога дабро,
На свеце дабро пераможа!

У вырай плыве жураўліны клін
І паяртаецца зноў у Айчыну.
Калі давяраецца маці сын,
Верыць маці такому сыну.

## Жыццёвы крыж

Дамоў дзяўчыну я праводзіў,
Мой шлях праз могілкі
праходзіў.
Назад вяртаўся.
Раптам крыж
Спытаў мяне:
— Чаму не спіш?

У звонка-ядранай прасторы
— Чаму не спіш? —
Звінелі зоры
І пеўні, прадзяўбаўшы ціш,
Крычалі мне:
— Чаму не спіш?

Я звяў, разгублена-ціхмяны,
Як злодзей, за руку спайманы.
І з той пары быў я не рад
Сустрэць яе паміж дзяўчат,
Хоць нагадаў аднойчы крыж:
— Чаго ты спіш?

Прайшлі гады.
Я тым жа шляхам
Ішоў прыгнечаным бадзягам:
Убачыць бы, хаця б разок,
Каханне першае здалёк!
І прыдарожны крыж спытаў:
— Ну, што?..
Праспаў?

## Доля

А ведалі на Усходзе ўладары:
Паэты — вешчуны і бунтары,
Мяцежнікі паэты і прарокі,
І чыстыя, як горныя патокі.

Нацкоўвалі фанатыкаў на іх,
Іх рукапісы на кастрах палілі.
Народ жа далучаў іх да
святых,
І песні шанаваў іх, і магілы.

Ці не таму яны, уладары,
Іх пачалі прыручаць
пры двары,
Каб толькі іх паэты апявалі,
Авечкамі пакорлівымі сталі.

Але выліняў залаты халат
У тых, хто не ўтрымаўся
ад спакусы.
Паэт сапраўдны —
чалавеку брат,
Ён у гарэм сваю
не сплавіць музу!

Ішоў паэт сапраўдны
ў жабракі,
Ды не працягваў
Уладарам рукі.

## Славенія

Славенія — слава і слова.
Любляна — пяшчота, любоў...
Славянская мяккая мова
З глыбінь скамянелых вякоў.

Свабода
Людзей чалавечыць.
На гэтай пакутнай зямлі
Ні атурэчыць,
Ні анямечыць
Чужынцы народ не змаглі.

І сёння на вулках Любляны
Пад покрывам мірнай зары
«Кацюшу» пяюць партызаны,
Нібы ў беларускім бары.

Чаму ж гэтак ціха спяваюць,
Нібы ля начлежных кастроў,
Нібыта з-за гор наплываюць
Варожыя хмары ізноў?

І я, пасланец Беларусі,
Пад покрывам мірнай зары
Да явара тут прыхінуўся,
Нібы да хваінкі ў бары.

Ракеты глядзяць, як цыклопы.
Свет сны міралюбныя сніць.
І чыстая ў цэнтры Еўропы
Крыніца славянства бруіць...

«Спяшаліся дужа гаспадары. Нават антэну не знялі,— зазначыў сам сабе.— Бачна, адбрыдла ім гэтая зямля. Бачна, лепшы кут знайшлі».

Пра вуліцу, пра тое, што менавіта яна тут пралягала, згадвалі даволі прыкметныя каляіны ды там-сям абсады.

Дзве апошнія хаты таксама стрэцілі нематой. Вераб'і і тыя не пырхалі каля іх. Толькі сарока маўкліва ўзнялася са змарнелай яблыні, кульнулася над абрынутым зрубам калодзежа і нырнула ў лес.

«Дзе ж гаспадары?! Раз'ехаліся, пэўна. Па гарадах аселі, унукаў нянчаць. Ці...ці, можа, паляглі на пагрудку пад бярозамі? Але ж дзеці... іх дзеці!.. Яны ж павырасталі тут!»

Ён запыніўся перад яблыняй, сарваў зеленкаваты яблык, і, жадаючы хоць трохі прагнаць смагу, хруснуў, меўся глытнуць, аднак не змог—кус засеў у горле.

## Вясельная ноч

Спакваля разыходзіліся госці, спакваля ўлягаўся і вясельны тлум.

Недзе за поўнач, калі засталіся адны родзічы, усталяваўся нарэшце нязвычны спакой. Было чуваць, як за вокнамі выў вецер, як шархацеў па шыбах снег.

— Завіруха ўзнялася,—прыбіраючы са сталоў, навастрыла вуха сястра.

— Не інакш чорт на ведзьме жэніцца,—кракатнуў бацька.

Хмыкнуў швагер:

— Відаць, з Лёшы прыклад узяў. Відаць, і яму халасцякаваць надакучыла.

— О, а дзе ж нявестачка мая?— спахопліва азірнулася маці і запытальна акінула Аляксея вокам.— Не скажаш, сынок?

— Была во.

— Калі?

— Нядаўна.

— І сплыла?

— Выйшла.

— Адна?

— Не змеціў.

— Гаварыла ж, куды надумала?

— Не.

— Пакрыўдзіў, можа?

— Скажаш.

— Глядзі мне!—паківала пальцам старая.—Паскардзіцца хай, дык не пагладжу цябе па галоўцы.

— Я ж—ні-ні...—разгубіўся сын.

— Ладна. Пабачу,—не даслухала жанчына і раптоўна прыкрыкнула:— Чаго стаіш? Ідзі шукай сваю прапажу ды вядзі дамоў. Крый бог застудзіцца!

— Зараз!

Мітусліва Аляксей накінуў бацькаў кажушок, адзеў шапку, шугануў за дзверы.

Ледзь высунуўся з сянец—па твары секануў калючы снег. Угінаючыся, засланяючы вочы, хлопец павёў галавой, няўпэўнена клікнуў:

— Таня... Таньча!

У адказ яшчэ зласлівей свіснуў з-за вугла вецер, грымнуў узарванай ля коміна бляхай, узвіхрыў снежны пыл.

Мінуту ці больш, пакуль не асвойтаўся са святла, услухваўся, затым не вытрымаў, таропка пералічыў абцасамі крутыя прыступкі, скокнуў цераз намеценую гурбу, мімаходзь заўважыў глыбокія паўзанесеныя сляды.

«Таніны!»—падумаў.

Ён угнуўся, пусціўся трухам.

Завіруха зраўняла неба і зямлю—ні хат, ні нават прысад не віднелася. Ды Аляксей і не стараўся іх апазнаваць; не арыентаваўся—глядзеў толькі перад сабой.

Шыбаваў—не ведаў куды. Бухаў вышэй каленяў; не асцерагаўся ані, бо снег адразу ж набіўся за кароткія халяўкі бацінак; прабіраўся праз сумёты, нярэдка кудысь праваліваўся, падаў, усхопліваўся.

Сляды не ўсюды празначаліся. Падчас яны прападалі. Хлопец тады сунуўся наўздагад. Разы два вяртаўся, управа, улева кідаўся. Нарэшце знаходзіў. Брыў далей.

Нечакана апынуўся перад глухой даўжэзнай цаглянай сцяной. Разгублена спыніўся, знямеў. Але неўзабаве сцяміў: да кароўніка выбраўся.

Бегма абагнуў будыніну, знайшоў шырокія вароты, пхнуў плячом, уваліўся ва ўтулле цяпла.

Таню ўбачыў не адразу. У старэнькай фуфайцы, у пуховай хустцы, з-пад якой вытыркваўся бялюткі вясельны вэлюм, дзяўчына пераміналася каля слупа.

— Ага, знайшоў-ткі бяглячку! — падкраўся і крыкнуў хлопец.

Ад неспадзеўкі Таня ўздрыгнула, няўцямна спытала:

— Ты... ты чаго?

— А ты чаго тут апынулася?

— За Краску баялася. Ведала — ацеліцца. Вось і не вытрымала, прымчала.

— Ну і што? — абняў яе Аляксей.

— Вунь глядзі! — шчасліва ўсміхнулася дзяўчына. — Цялушачкай парадавала мяне!

Толькі зараз хлопец заўважыў пасярод стойла чорную крутарогую карову і ля яе на дрыготкіх ножках такое ж чорненькае цялятка. Карова то лізала цялё, то бліскала вачыма, неспакойна мыкала.

— Праўда, харошанькае малеча?! — ускінула дзяўчына галаву.

— А ты яшчэ лепшая ў мяне! — прыпаў хлопец да гарачых губ.

Карова чамусьці не абзывалася больш, адно лізала і лізала сваё цялятка.

## Нелюдзімы

Бляднеў захад, гусцеў морак, чарнатой засноўваліся зямля і неба. Угары паўсюдна запальваліся спачатку самыя буйныя зоркі, потым — драбнейшыя і нарэшце праклюнуліся зусім малюсенькія, ледзь бачныя.

Сцяпан брыў памалу. Знарок марудзіў. Як кінула яго і паехала да дачкі жонка, — маўляў, не знясу я больш тваёй нелюдзімасці, жыві сам па сабе, — ён ніколі не спяшаўся дадому. Яму няўсцерп было аднаму. Прыгняталі маўклівасць і пустэча.

Ад хат, з разяпленых дзвярэй ці адчыненых акон, з падворкаў даносіліся галасы або нейкія гукі: там гаманілі, смяяліся, недзе шумна ўздыхала карова і чуўся звон тугіх струменяў па бляшаных сценках дайніцы, тут лілася рахманая музыка, адтуль далятала дзынканне вядра і плёскат вады.

«Затое ў мяне — цішыня, — быццам ад недалёкай бліскаўкі, скаланула Сцяпана. — Ніхто нічым не азавецца».

Бадай, трыццаць гадоў ён круціў шафёрскі абаранак, ведаў адну сваю машыну. І таму, пэўна, не любіў нічога жывога. Варта было бадзяжнаму сабаку да прызбы наблізіцца — Сцяпан, акурат уколаны, падхопліваўся, зрываў са сцяны драбавік.

Апошні раз «папалохаў» галубоў, якія не без жончынага дазволу частаваліся недаедкамі курэй: выбег вон, стрэліў засаб двойчы; падняў чатырох, аднаго — падранка дабіў аб калоду, кінуў пад паркан.

— Ваўкалак ты! — не вытрымала гаспадыня. — Чым гэтыя птахі ўгнявілі цябе?

— Яны — пражэр.

— Аб'елі дужа?

— Не цярплю дармаедаў.

— Супастат, — скрывіла жонка губы. — Нелюдзь. Век ласкі ад цябе не бачыла.

— Не падабаюся я — пашукай дабранькага.

Слова па слову — рассварыліся. Ды так — не быць і не жыць больш. Укрыўдзілася жанчына, сабрала клуначак і — бывай, вёска!

Карову Сцяпан прадаў яшчэ пры жонцы: на ліха яна, калі ў магазіне— і малако, і сыр, і смятана. А парсюка ды курэй пасля звёў. Што ж тычыцца ката, то кот сам сцураўся.

Як і да сённяшняга сельбішча стрэла слепа і нема: ні святла не зырыла, ні зыку не чулася. Сцяпан грукнуў весніцамі, хацеў павярнуцца, джгнуць прэч, аднак тут жа астыў: куды? Падумаў: позна. Разважліва здранцвеў пад вішняй.

Быццам стаміўся за дзень, вецер нічым не нагадваў аб сабе, ніводным лісточкам не жадаў шалахнуць. Спакой панаваў побліз. Конікі і тыя змоўклі, не пстрыкалі між шаўкавістага мурагу. Адно, што ўлоўлівала вуха, дык гэта назойлівае ныццё нейкага нястомнага камара.

Нечакана з-пад цёмнай прызбы, ад ганку данеслася кацянячае мяўканне.

— Ну і ну! — здзівіла Сцяпана. — Не інакш — падкідаш. Не хапала бабе клопату!

Ён гучна падзугаў па сцяжынцы.

— Адшыю зараз!

Відаць, напалохалася гулу крокаў і, ці то замерла ці, можа, шуснула падалей, кацянё не абазвалася больш.

Сцяпан парыпаў трохі прыступкамі, пакруціў галавой, паўзіраўся, потым сплюнуў, ляснуў ключом, адчыніў сенцы.

Ледзь пстрыкнуў выключальнікам — пачуў ад акна мяккае трэпанне крылляў. Глянуў — вялізны начны матыль біўся аб шыбу.

— Цябе яшчэ не хапала!

Гаспадар грэбнуў са стала газету і сабраўся хвастануць няпрошанага госця, як звычайна хвастаў залётных стракатых матылькоў або гугнявых чмялёў, узняў ужо руку ды тут жа знямеў, вырачыўся: у хату праз незачыненыя дзверы нячутна ўвайшло шэрае, пушысценькае кацянё.

— Адкуль ты такое? Якой трасцы табе трэба? Ну, змывайся давай! — нацэліўся падфутболіць чаравікам, ступіў крок.

Кацянё замяўкала, узняло хвосцік, рушыла насустрач.

— Го смелы, паршывец! — спыніўся ад здзіўлення.

Малы лёгкі камячок заўвіваўся вакол нагі, зацёрся адным бокам, другім. Ад гэтага разгубіўся чалавек.

— Згаладалася? Жэрці хочаш? — знарок груба вымавіў ён. — А дзе ж мне ўзяць табе прысмакаў? У самога кішкі марш іграюць. Сам па сталоўках нашчуся. Дома не трымаю нічагуткі. Хлеб толькі, мусіць, ёсць.

Сцяпан адчыніў шафу, адкалупнуў ад чэрствага гарбяка кавалачак, паклаў перад кацянём. Думаў — не дакранецца. Аж не: тое адразу накінулася на пачастунак.

— Сапраўды вымерхалася!

Мінуты праз дзве кацянё падабрала апошнія крошкі, удзячна цярнулася аб чаравік і прылягло побач, скруцілася клубочкам, замурлыкала.

— Гіш яго! Жывёлінка нейкая, лічы — нікчэмнасць, а бач!.. — Знерухомеў на табурэтцы Сцяпан. — Трэба ж так, га! — здзівіўся ўпершыню шчыра.

Хоць даўно пара было спаць укладвацца, але чалавек не кратаўся з месца. Ведаў: выключыць святло — ураз замрэ і знікне матыль-начнік, сыдзе кацянё, і ён зноў застанецца адзін алным сярод гнятлівай цішыні вялікай хаты.

## МУЗЫКА

**Гэтыя нататкі — пра важнасць ансамблевага музіцыравання. Аўтар выказвае свой пункт гледжання і на праблему выхавання слухачоў філарманічных канцэртаў, якая апошнім часам абмяркоўваецца ў публікацыях «ЛіМа».**

# НЯМА ПРЫКЛАДАЎ? НЯМА ТРАДЫЦЫЙ?..

ТАКАЯ ўжо завядзёнка — наша філарманічная практыка ў асноўным складаецца з выступленняў салістаў і аркестравых калектываў. Радзей афішы паведамляюць пра канцэрты квартэта або трыо, запрашаюць на санатны вечар або на праграму камернага інструментальнага ансамбля. Такая тэндэнцыя вызначылася апошнім часам у канцэртным жыцці ўсёй краіны.

Зразумела, так было не заўсёды. Патрэбнасць у інструментальным музіцыраванні закладзена ў культуры кожнага народа. (Прыгадайма, напрыклад, мастацтва скамарохаў, валачобнікаў, «траістую музыку» беларусаў). Шырокае развіццё народныя формы самавыяўлення набывалі ў акадэмічных жанрах. У гісторыі музыкі вядомы перыяды салоннага музіцыравання: ад венскіх класікаў да рамантыкаў, росквіту рускай камернай музыкі ў XIX — на пачатку XX стагоддзя, інтэнсіўнага развіцця ансамблевага музіцыравання ў нашай краіне ў 20—30-я гады...

Тое, што ў наш час знізілася цікавасць да такога віду творчасці, у многім залежыць ад нашай сістэмы музычнай адукацыі, накіраванай на выхаванне саліста, лідэра, лаўрэата. Словам, пэўны акцэнт робіцца на выхаванне асабовых, індывідуальных якасцей — ва ўрон інтарэсу да ансамблевай ігры. Відавочна, цудоўныя колішнія традыцыі трэба адраджаць, выхоўваць культуру калектыўнага музіцыравання, пачынаючы са школы, з выкладання і выкладчыка!

У сувязі з гэтай размовай дарэчы будзе ўспомніць сёлетнюю рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную тэме «Музычна-эстэтычнае выхаванне навучэнцаў дзіцячых музычных школ і пытанні развіцця беларускай камерна-ансамблевай музыкі». З дакладам на ёй выступіў загадчык кафедры камернага ансамбля Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі дацэнт М. Шчарбакоў.

Ён гаварыў пра выкладанне ў ДМШ прадмета «клас ансамбля»: прадмет першаступеннай важнасці, дзе, па сутнасці, фарміруюцца выканаўчыя навыкі, у заняпадзе. Паводле вучэбнага плана ім займаюцца толькі ў 3 і 4 класах ДМШ ды і то паўгадзіны ў тыдзень. Ці можна тут гаварыць пра сур'ёзныя заняткі? Дзеці не прывучаюцца слухаць сябе, слухаць партнёра, слухаць музыку. Далей прамоўца падкрэсліў: нават тое, што робіцца, — робіцца на няправільнай метадычнай аснове. Вучэбныя праграмы складзены фармальна, твораў рэкамендавана шмат, а выбраць няма чаго. Якасць рэпертуару выклікае мноства нараканняў. Нотны матэрыял здабыць амаль немагчыма. Адсутнічаюць арыгінальныя сачыненні — прапануюцца скрозь пералажэнні. Для нашай рэспублікі ў вучэбных праграмах адсутнічаюць творы беларускіх кампазітараў.

Ці не гэта — прычыны спаду цікавасці да прадмета? Клас ансамбля з прафіліруючага прадмета робіцца другасным. Ім «дагружаюць» выкладчыкаў, у якіх не хапае нагрузкі. Яго можа весці кожны. Бо адпаведнай спецыялізацыі — педагог ансамблевага класа — няма.

Наколькі такая сістэма музычнага выхавання (а яна існуе не адзін дзесятак гадоў) спрыяе поўнаму і ўсебаковаму раскрыццю музычных здольнасцей навучэнцаў, шырокаму далучэнню іх да музыкі? Ці няма тут «вузкіх месцаў»? Вось пытанні, якія сёння павінны хваляваць не толькі выкладчыкаў ДМШ, але і ўсіх дзеячаў музычнай культуры. Ад гэтага залежыць не толькі падрыхтоўка музычных кадраў, але і музычна-эстэтычнае развіццё маладога пакалення ў цэлым. Тут жа — і ключ да праблем «музыка і слухач», бо сённяшні вучань — патэнцыяльны слухач філарманічных канцэртаў. Прыгадайма, што ў 20-ыя гады, калі закладваліся асновы нашай сістэмы музычнай адукацыі, акадэмік Б. Асаф'еў пісаў: «Сярод педагогаў яшчэ ёсць людзі, якія разглядаюць сваю задачу толькі як навучанне навыкам рамяства». І далей: «Пара заняцца праблемай падрыхтоўкі папятлівых, культурных слухачоў, якіх не так ужо шмат і ад інтэлектуальнага ўзроўню якіх залежыць прагрэс нашай музыкі». Якія жывыя і актуальныя думкі, а гэтым жа радкам ужо больш за 60 год! Вось дзе непачаты край работы.

Заўважу, што арганізатары рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, пра якую тут гаварылася, загадзя звярнуліся ў Саюз кампазітараў БССР з прапановай стварыць для навучэнцаў ДМШ рэспублікі арыгінальныя творы рознай ступені цяжкасці. Прапанова была прынята, і цяпер ужо можна гаварыць, што такі рэпертуар ёсць. Ён быў прадстаўлены ў канцэртнай праграме канферэнцыі.

Пасля канцэрта ўсчалася дыскусія, размова працягвалася як бы «з другога боку». Прынамсі, прагучала пытанне: дзе прапановы з месц? Чаму пра недахопы вучэбнай праграмы не пішуць у Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр Міністэрства культуры БССР самі педагогі? З кіраўнічага паста не заўсёды бачна аб'ектыўная карціна, а дзелавыя, аргументаваныя прапановы, карысная ініцыятыва заўсёды знойдуць падтрымку ў міністэрстве. Ёсць і праблема рэалізацыі тых зборнікаў твораў беларускіх кампазітараў, якія ўжо выйшлі: выкладчыкі мала цікавяцца нотнымі навінкамі, а кампазітараў можна папракнуць у тым, што не заўсёды яны пішуць ярка, цікава і даступна для дзяцей.

Словам, на канферэнцыі былі абмеркаваны сур'ёзныя і актуальныя пытанні музычнай педагогікі, намечаны практычныя крокі паляпшэння ансамблевага выкладання ў ДМШ. А гэта, мабыць, паўплывае на актывізацыю камернага ансамблевага музіцыравання на ўсіх узроўнях, уключаючы вучылішчы і кансерваторыю.

ДАРЭЧЫ, у хуткім часе быў наладжаны канцэрт выкладчыкаў кафедры камернага ансамбля Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Выступалася трыо І. Брычыкава (кларнет), Я. Ксавер'ева (віяланчэль), Э. Габрыэлян (фартэпіяна) і дуэт І. Брычыкава і І. Жаравай (фартэпіяна). Гэтыя ансамблі прагучалі на добрым, амаль філарманічным узроўні, дастаткова пераканаўча. Іх поспех складаўся з індывідуальнага ўмельства музыкантаў. Сталы, даўно вядомы калектыў — Струнны квартэт Саюза кампазітараў БССР, на жаль, выступіў няроўна: штосьці прагучала лепш, штосьці менш удала.

Ды галоўнае не ў тым, што сярод выкладчыкаў з добрай акадэмічнай культурай і ўпэўненай манерай выканання ёсць здольныя, але недастаткова адметныя, і ёсць музыканты «замкнёныя», якія не раскрываюцца ў выкананні. Радуе, што на кафедры нямала няўрымслівых, творча актыўных выкладчыкаў. Радуе, што выкладчыкі адкрываюць для сябе і для слухачоў новыя сачыненні, узбагачаюцца новымі ідэямі, атрымліваюць новыя імпульсы для выканальніцтва і педагогікі. У рэшце рэшт, людзі іграюць, у той час як многія іншыя маўчаць! Яны іграюць, хоць ведаюць, што слухаць іх будуць усяго некалькі чалавек. І ўсё-такі яны іграюць, даючы надзею на тое, што становішча, з дапамогай іх прыкладу, можна выправіць.

І зноў — праблема слухачоў... Цікавы канцэрт у зале кансерваторыі. Чаму ён не прыцягальны для калег, выкладчыкаў вучылішча і школ, для студэнтаў? Чаму ён праходзіць так будзённа, звычайна? Нарэшце, чаму ён існуе для «ўнутранага карыстання»: афішы ў горадзе ёсць, але мала хто звяртае на іх увагу?

Канечне, можна прывесці вельмі шмат тлумачэнняў і довадаў, і, мусіць, сярод іх будуць аб'ектыўныя. Але мне падаецца, сур'ёзная прычына — адсутнасць у самых педагогаў, а значыць, і ў студэнтаў патрэбнасці... слухаць. Адсутнасць таго адчування, што ўся іх музычная дзейнасць без выпрацаванай звычкі слухаць — не поўная.

Няма прыкладаў. Няма традыцый. Ці не гэтым тлумачыцца малая колькасць слухачоў і на філарманічных канцэртах? Бо навучальныя ўстановы — галоўны рэзерв слухачоў для канцэртных арганізацый. Без гэтай катэгорыі слухачоў філармоніі не вырашыць праблему пустых залаў на камерных канцэртах. Думаю, трэба пачынаць з выхавання слухачоў у навучальных установах.

ЯК АДРАДЗІЦЬ цікавасць да ансамблевага музіцыравання, ператварыць яго ў традыцыю? На маю думку, галоўнае, каб пра гэта клапаціліся і персанальна адказвалі кампетэнтныя людзі. З асобнымі вучэбнымі канцэртамі варта выходзіць не толькі на гарадскі ўзровень, але і на рэспубліканскі. Аналагічную практыку варта наладзіць і ў вучылішчах і ў музычных школах.

Цяпер, калі ідзе рэформа школы, калі рыхтуецца рэарганізацыя дзейнасці ВНУ, калі ва ўсіх партыйных дакументах падкрэсліваецца важнасць і неабходнасць уздыму эстэтычнага выхавання шырокіх працоўных мас на якасна новы ўзровень; калі прынята пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР, скіраваная на далейшае паляпшэнне канцэртнай дзейнасці ў краіне, паляпшэнне прафесійнай падрыхтоўкі выканаўцаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах і г. д., — самы час падумаць пра новаўвядзенні. Відаць, будзе слушным так паставіць пытанне: што гэта за музыкант, які не ўдзельнічае асабіста ў музычным жыцці горада, духоўна інертны, які можа гадамі не з'яўляцца ў філармоніі, і ці дастойны такі «прафесіянал» быць выхавацелем студэнтаў?!

Вядома, большасць музыкантаў жыве ў Мінску, дзе ёсць і кансерваторыя, і тэатр оперы і балета, і філармонія. А што маюць у сваім распараджэнні нашы калегі з абласных і раённых цэнтраў? Усё іх канцэртнае жыццё фарміруюць рэдкія гастралёры, увесь музычны цэнз складаецца з грампласцінак, усё кола эстэтычнай адукацыі — з тэлевізійных перадач. (Прыходзіць на думку такое параўнанне. Беларусь і, напрыклад, Чэхаславакія — рэспублікі амаль роўныя па тэрыторыі і насельніцтве. У Чэхаславакіі ж (гл. «Музыкальную энциклопедию») функцыяніруе 7 кансерваторый, 14 оперных тэатраў, 18 сімфанічных аркестраў і больш чым 30 прафесійных камерных ансамбляў. Вось і вытокі высокага ўзроўню духоўнай культуры, багатых музычных традыцый).

Разумею: арыентацыяй толькі на школу, на педагагічныя кадры або на самадзейнасць музычную культуру не ўздымеш. У век НТР і паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу арыентавацца такім чынам — значыць плесціся ў хвасце пастаўленых задач або проста загубіць справу. Але ў цяперашніх нашых умовах, напэўна, трэба найперш актывізаваць дзейнасць тых, хто працуе на ніве музычнай педагогікі, абудзіць тыя сілы, якія будуць настойліва дамагацца ўзбагачэння форм канцэртнага жыцця на месцах.

ЖЫВОЙ, плённай сувязі музыкі з шырокай аўдыторыяй — вось чаго нам сёння адчувальна бракуе. Гэтай сувязі павінны садзейнічаць асоба музыканта-выканаўцы і асоба музыканта-дзеяча. Мне здаецца, што ў нас страчана гэтае паняцце: дзеяч. Вучоба, выхаванне, праца музыканта зводзіцца да вузкай спецыялізацыі: ёсць кампазітары, піяністы, скрыпачы, тэарэтыкі і г. д. Для вырашэння задач, якія паўстаюць сёння перад музычнай грамадскасцю, гэтага недастаткова. Патрэбны людзі з вялікім аўтарытэтам музыканта, з непасрэдным і сучасным успрыманнем жыцця, якія не адгароджваюцца ад паўсядзённых праблем і якія бачаць перспектыву іх вырашэння.

Пытанні развіцця камерна-ансамблевых жанраў неад'емныя ад пытанняў прапаганды музычнага мастацтва ў рэспубліцы. Хацелася б, каб яны зацікавілі шматлікіх нашых музыкантаў-педагогаў, асабліва на перыферыі: што можна зрабіць для развіцця музычна-эстэтычнага выхавання ў сябе на месцах?

Я думаю, што і цяпер многія нашы музыканты бачаць наспелыя праблемы музычнага жыцця, адчуваюць неабходнасць зменаў, але не ўсведамляюць сваю грамадзянскую далучанасць да вырашэння гэтых праблем.

ПЛЁННАЙ ФОРМАЙ музычна-эстэтычнага выхавання можа быць дзіцячая філармонія. На жаль, яна «паказвае сябе» раз у год, у час Тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва. А ці ж нельга было б наладзіць яе работу сістэматычна, на працягу года, і зрабіць яе насычанай, разнастайнай, сапраўды прывабнай? А хто з творчых работнікаў ёю па-сапраўднаму займаецца, хоць бы рэгулюе яе дзейнасць? Прадумаўшы работу такой філармоніі, многае можна было б зрабіць па развіцці дзіцячай творчасці, далучэнні юных музыкантаў да канцэртнай дзейнасці. І які прастор быў бы менавіта для камерна-ансамблевага музіцыравання!..

Пытанні гэтыя не новыя, новыя тыя абставіны, у якіх яны зараз узнімаюцца. І вельмі многае залежыць ад таго, як мы самі, музыканты і педагогі, возьмемся за іх вырашэнне.

**В. МНАЦАКАНАЎ,**
**дацэнт Мінскага інстытута культуры.**

## КІНО

# Пачыналася з урокаў фатаграфіі

**Гэтымі днямі спаўняецца 60 год заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Рыгору Масальскаму і заслужанаму работніку культуры рэспублікі Алегу Аўдзееву. Пра вядомых кінааператараў расказвае мастак - пастаноўшчык студыі «Беларусьфільм», заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Яўген Ганкін.**

Я добра ведаю і аднаго і другога, з кожным працаваў на фільмах, сачыў за іх творчым ростам на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Таму гаварыць мне пра іх лёгка і прыемна. Абодва яны людзі вельмі сімпатычныя, шчырыя, сціплыя, глыбока інтэлігентныя, і кантакты з імі — творчыя, чалавечыя — прыносяць радасць і задавальненне.

Жыццё кожнага з іх, натуральна, складвалася па-свойму, і агульнае ў іх біяграфіях, мабыць, тое, што іх падлеткавы ўзрост так альбо інакш апалены вайною, а работа на кінастудыі пачалася ў нялёгкія пасляваенныя гады.

Алег Аўдзееў нарадзіўся ў Ленінградзе. Яшчэ школьнікам наведваў ленінградскі Дом піянераў і там атрымаў першыя сур'ёзныя ўрокі фатаграфіі. Як і многія яго равеснікі, глядзеў усе фільмы, што выходзілі на экраны. Адначасова з фатаграфіяй захапляўся і тэхнікай. А ў 1942 годзе пачаў ужо сваю працоўную дзейнасць: у зборачным цэху авіяцыйнага завода ў Казані...

Пасля А. Аўдзееў вучыўся ў Куйбышаўскім індустрыяльным тэхнікуме. Але кінематаграфічныя рэмінісцэнцыі не пакідалі яго: Алег паступіў на аператарскі факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі. Яго настаўнікамі былі вядомыя кінааператары А. Лявіцкі, Э. Цісэ, А. Гальперын. Закончыўшы інстытут, прыехаў на «Беларусьфільм» і тут працуе вось ужо трыццаць

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Эксперымент, які зацягнуўся

Тэма, якую я хачу закрануць, не новая. Пра яе шмат пішуць, а зменаў у лепшы бок мала.

Цяпер ужо ніхто не здзіўляецца, калі людзі, спяшаючыся, нясуць, вязуць макулатуру. Усім ясна, што яны ўдзельнічаюць у эксперыменце, абменьваючы сваю макулатуру на кніжныя абанементы. У поспеху гэтай справы зацікаўлены абодва бакі — і кнігалюб, і нарыхтоўчыя арганізацыі, а ў канчатковым выніку дзяржава — усе мы.

У Асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года адзначаецца: «Значна палепшыць выкарыстанне другасных рэсурсаў.., удасканальваць арга-

гадоў — тэрмін вялікі і важкі для аператара.

Ён зняў мноства дакументальных, навукова-папулярных, мастацкіх і тэлевізійных фільмаў. І ў кожным з іх, у рознай ступені, я адчуваю жывую інтанацыю мастака, яго несхаваную цікавасць да таго, што ён здымае.

У 1958 годзе рэжысёр Л. Голуб, пачынаючы работу над мастацкім фільмам «Дзяўчынка шукае бацьку», запрасіў у якасці аператара-пастаноўшчыка А. Аўдзеева (разам з І. Пікманам). Мне здаецца, што ў гэтым фільме талент А. Аўдзеева выявіўся на поўную сілу. Тут ярка раскрыліся вартасці менавіта гэтага аператара: яго тонкае ўспрыманне беларускай прыроды, паэтычнае асэнсаванне падзей, якія адбываюцца ў фільме, псіхалагічна дакладная падача партрэтаў герояў. Кінастужка «Дзяўчынка шукае бацьку» ў свой час была значнаю з'яваю беларускага кіно. Пасля гэтага фільма стала ясна, што ў асобе А. Аўдзеева студыя мае адметнага аператара з самастойным творчым почыркам.

Потым былі новыя фільмы—на ваенную тэму і пра сучаснасць, бытавыя і на тэмы маральна-этычныя, спартыўныя. Алег Аўдзееў працаваў на фільмах, знятых па творах Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Алеся Асіпенкі, Кастуся Губарэвіча, іншых беларускіх пісьменнікаў, ён здымаў дома і за мяжою, з рэжысёрамі вопытнымі і маладымі. І кожная работа раскрывала новыя творчыя рысы аператара, удасканальвала яго тэхнічныя здольнасці, спрыяла яго самасцвярджэнню. Успамінаю, якое моцнае ўражанне зрабіла на мяне аператарская работа ў чорна-белым фільме «Воўчая зграя» (паводле аповесці В. Быкава), што з'явіўся на экранах у 1975 годзе. Краявіды, знятыя Алегам Ціханавічам, перараслі межы дэкаратыўнага фону, яны з'явіліся вобразным асяроддзем, эмацыянальна ўздзейнічалі на ўспрыманне фільма гледачамі.

Спіс мастацкіх фільмаў, знятых А. Аўдзеевым, магчыма, і карацейшы, чым у іншых аператараў, але на кожным з іх ляжыць пячатка асаблівага аўдзееўскага таленту. Яго праца неаднаразова адзначалася прызамі, дыпломамі.

Трэба сказаць яшчэ пра тое, што пры ўсёй сваёй знешняй мяккасці, сціпласці Алег Ціханавіч праяўляе рашучасць і адвагу ў асваенні ўсяго новага, што з часам узбагачае кінематограф. Скажам, дваццаць гадоў назад, калі якасць каляровай плёнкі, яе святлоадчувальнасць былі значна ніжэйшыя і аператары, мякка кажучы, пабойваліся колеру, А. Аўдзееў першы з беларускіх аператараў узяўся за колер. У 1968 годзе ён паспяхова зняў першы каляровы мастацкі фільм на нашай студыі «Страказіныя крылы».

Ці ўзяць шырокі экран. Ён вымагае дадатковых творчых і тэхнічных сіл, ставіць новыя задачы перад аператарам. Ён значна ўскладняе здымачны працэс, і многія аператары аддаюць перавагу звычайнаму экрану. Але А. Аўдзеева шырокі экран не бянтэжыць. Ён бачыць усю яго складанасць, таксама як і ўсе яго перавагі. Ва ўсякім выпадку, для яго ніколі не стаяла пытання: здымаць або не здымаць на шырокі экран.

Алег Ціханавіч, наогул, чалавек многіх захапленняў. Яго цікавіць усё новае, што з'яўляецца ў айчыннай і замежнай тэхніцы, у аэранаўтыцы, у аўтабудаванні, у электроніцы. У гэтых пытаннях ён энцыклапедыст. Дый сам у вольны час нешта бясконца майструе. Апошнім часам з'явілася новае захапленне — ён сур'ёзна, зноў-такі ў вольны час, займаецца жывапісам і з юнацкай апантанасцю піша партрэты, нацюрморты і пейзажы, якія раней занатоўваў толькі на плёнку. А вольнага часу не так ужо і многа: акрамя работы на студыі — шмат грамадскіх абавязкаў. Ён удзельнічае ў журы конкурсаў аматарскіх фільмаў, сустракаецца з кінааматарамі, дае ім прафесійныя кансультацыі. І робіць гэта шчыра, з душой.

Такі ён, мой таварыш і сябра, — Алег Ціханавіч Аўдзееў.

ЮНАЦКІЯ ГАДЫ Рыгора Масальскага праходзілі прыблізна гэтак жа, як і ў Аўдзеева. Карэнны мінчанін, ён у даваенныя гады вучыўся ў школе і наведваў мінскі Палац піянераў, вывучаў асновы фатаграфічнага майстэрства. Як усе яго аднагодкі, бегаў у кінатэатры на новыя фільмы. Ён закончыў сем класаў школы — і тут пачалася вайна. Руйнаваўся родны Мінск. Ён быў сведкам усіх жахаў фашысцкай акупацыі...

Адразу пасля вайны Рыгор Масальскі прыходзіць на кінастудыю «Беларусьфільм». Ён працуе і адначасова вучыцца ў вячэрняй школе, каб атрымаць сярэднюю адукацыю.



А. Аўдзееў.



Р. Масальскі.

Фота І. АЎДЗЕЕВА і А. ДЗМІТРЫЕВА.

Не, кінаінстытута ён не скончыў. Праўда, паступаў, але не паступіў. Вельмі вялікія былі тады конкурсы ў ВГІК. Яго «універсітэтамі» сталі жыццё, настойлівая вучоба ў такіх вопытных кінааператараў, як І. Шэкер, У. Акуліч, А. Гінцбург, Г. Удавенкаў і іншыя. У іх Р. Масальскі працаваў спачатку асістэнтам, а потым другім аператарам, на такіх этапных для беларускага кіно фільмах, як «Канстанцін Заслонаў», «Беларускі канцэрт», «Палеская легенда».

На пачатку пяцідзесятых гадоў у савецкім кінематографе рэзка скарачаецца колькасць фільмаў: гэта быў перыяд, які мы потым пачалі называць «бескарціннем». Рыгор Масальскі, як і многія іншыя кінематаграфісты, быў вымушаны часова пакінуць студыю. Некаторы час працаваў фотакарэспандэнтам Беларускага таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі. І хоць гэта яго работа не мела непасрэднага дачынення да кіно, яна ў рэшце рэшт зрабіла неацэнную паслугу аператару. Рыгор Масальскі аб'ездзіў усю Беларусь, што дало яму магчымасць пазнаёміцца з разнастайнымі беларускімі пейзажамі, з самымі рознымі людзьмі. Потым яму гэта вельмі дапамагло пры рэалізацыі мастацкіх задум.

На кінастудыю Рыгор Ігнатавіч вярнуўся ў 1955 годзе. Пятнаццаць гадоў запар — да 1970 года ён здымае хранікальныя, дакументальныя, навукова-папулярныя і заказныя фільмы. Гэта велізарная работа! Адных толькі сюжэтаў для кіначасопісаў знята ім за гэты час больш чым пяцьсот! А за кожным жа з гэтых сюжэтаў— удумлівая і клапатлівая работа аператара!

Стужкі, знятыя Р. Масальскім — рознапланавыя. Тут і фільмы пра гераічных абаронцаў легендарнай Брэсцкай крэпасці, фільмы аб працоўным гераізме савецкіх людзей на новабудоўлях рэспублікі, фільмы пра народнага паэта Беларусі Янку Купалу і слаўную дачку балгарскага народа Лілю Карастаянаву, антырэлігійныя фільмы пра згубны ўплыў сектантаў-пяцідзесятнікаў на дзяцей і дарослых. І ў кожным з гэтых фільмаў адчуваеш грамадзянскую пазіцыю аператара, кожны сюжэт асвечаны яго розумам і сэрцам. У самым, здавалася б, звычайным, будзённым ён раскрывае рамантыку працы, звычайны сюжэт даводзіць да вобразнасці.

Ці не таму мудры і вопытны рэжысёр Л. Голуб, які ўважліва сачыў за работай Рыгора Ігнатавіча, запрасіў яго здымаць мастацкі фільм «Паланез Агінскага». Рэжысёр не памыліўся: работа аператара арганічна ўвайшла ў рэжысёрскую і аўтарскую задумы фільма. Пры ўсёй прастаце і рэалістычнасці здымак фільм афарбаваны паэтычнасцю. Як гэтага дасягае аператар — застаецца для мяне загадкаю. Рыгор Масальскі ніколі не карыстаецца ні складаным ракурсам, ні моднымі прыёмамі. Яго кінакамера заўсёды бязмежна шчырая. Можа, тут і хаваецца сакрэт?

Асобная старонка ў творчай біяграфіі Р. Масальскага — фільмы, знятыя ў садружнасці з вядомым рэжысёрам І. Дабралюбавым. Амаль пятнаццаць гадоў прадаўжаецца гэтая плённая садружнасць. Дастаткова ўспомніць такія фільмы, як «Вуліца без канца», «Таму, што люблю», «Братушка», «Расклад на паслязаўтра», «Белыя Росы», «Мама, я жывы!», каб пераканацца, як цесна працуюць два мастакі. Задума рэжысёра знаходзіць свайго вернага інтэрпрэтатара.

На фільмах «Белыя Росы» і «Мама, я жывы!» працаваў таксама і я і магу пацвердзіць, як лёгка працаваць з Рыгорам Масальскім. З ім радасна шукаць і знаходзіць агульную трактоўку выяўленчых кампанентаў фільма. І ўсё гэта спакойна, удумліва, з дабратою. Чытаючы сцэнарый, ён, знаўца беларускага пейзажа, тут жа, амаль беспамылкова, падказвае, дзе можна здымаць тую альбо іншую сцэну. У яго вельмі тонкае адчуванне акцёрскіх магчымасцей, што вельмі важна ў падрыхтоўчым перыядзе фільма.

Саракагадовая работа Р. Масальскага на студыі «Беларусьфільм» атрымала шырокае грамадскае прызнанне: ён уладар прызоў ЦК ВЛКСМ «Чырвоны гваздзік» і «Арляня», залатога знака і Ганаровай граматы Вярхоўнага Камітэта балгара-савецкай дружбы, шматлікіх прызоў і грамат усесаюзных і рэспубліканскіх кінафестываляў...

Свае шасцідзесяцігоддзе абодва юбіляры сустракаюць з новымі творчымі задумамі. Яны настойліва працуюць. Пажадаем ім моцнага здароўя і новых творчых удач на ніве беларускага кінамастацтва.

**Яўген ГАНКІН.**

---

нізацыю збору другаснай сыравіны, у тым ліку ў насельніцтва, умацоўваць матэрыяльна-тэхнічную базу нарыхтоўчых арганізацый». Вось з гэтай пазіцыі і паглядзім, што патрабуе зменаў або ўдасканалення ў арганізацыі абмену макулатуры, якая здаецца насельніцтвам, на кніжныя абанементы ў горадзе Мінску.

Пачнём з самага вострага пытання — інфармаванасці тых, хто жадае набыць талон на кнігі. У «Вячэрнім Мінску» мы можам прачытаць толькі паведамленне пра тое, што на працягу года будуць рэалізаваны талоны на тыя ці іншыя кнігі з указаннем квартала, калі чакаецца іх рэалізацыя. І ўсё. А ў годзе ж 365 дзён, а ў квартале іх як мінумум 90! І калі што «выкінуць», ніхто не ведае. Мне могуць запярэчыць: «А даведачныя тэлефоны»? Іх два на ўвесь горад. Возьмем, да прыкладу, тэлефон 36-55-08. Як быццам усё проста: набірай і даведвайся! Але, па-першае, паспрабуй дазваніцца — трэба мець час, жалезныя нервы і ў рэшце рэшт сам тэлефон, бо з тэлефона-аўтамата званіць — капеек не хопіць. Звоняць па гэтым тэлефоне тысячы людзей і многія з работы і ў рабочы час. Мне расказвалі, што ў некаторых арганізацыях прызначаюцца «дзяжурныя», «адказныя» за тое, каб усё ж дазваніцца і паведаміць атрыманую інфармацыю калегам. Так што не здзіўляйцеся, чытач, калі вы па гадзіне не можаце дазваніцца да якой-небудзь арганізацыі або ўстановы... Яны таксама некуды сіляцца дазваніцца... Але дапусцім, вам пашанцавала — вы дазваніліся. Вам скажуць, якія абанементы павінны быць (і то не заўсёды ўпэўнена), у якім пункце, але толькі сёння, а заўтра або на наступным тыдні — ні ў якім разе! Адказ катэгарычны: «Мы гэтага не ведаем!» Усё пакрыта імглой сакрэтнасці.

А што такое адсутнасць інфармацыі? Гэта тысячы непатрэбных званкоў, нервы людзей, якія бегаюць па прыёмных пунктах. Нярэдкія выпадкі, калі, даведаўшыся па тэлефоне, дзе ёсць патрэбная табе кніга, едзеш туды, а яе ўжо няма або наогул яшчэ не было! А хто падлічыў, колькі людзей, сутыкнуўшыся з такой арганізацыяй, адышло ад гэтай справы і выкідваюць макулатуру на сметнік. Як тут не прыгадаць ленінскую думку пра тое, што самую прывабную ідэю можна ажыццявіць так, што толькі адштурхнуць ад яе людзей. А што? Ніхто ж не ўпрошвае і тым больш не прымушае гэтым займацца! Хочаш — нясі, а хочаш — не. Хто хоча — той і дазвоніцца, і прыйдзе, і прынясе... Эксперымент працягваецца, але цяпер ужо над цярпеннем людзей.

Што можна тут зрабіць? Цяжка паверыць, што Упраўленне нарыхтовак Мінскага аблспажыўсаюза хоць бы за тыдзень да атрымання талонаў не ведае аб гэтым. Можна ж хоць за некалькі дзён даць у газеце аб'яву, якія кнігі і дзе будуць у бліжэйшы час. Гэтыя ж звесткі даць прыёмным пунктам макулатуры для інфармацыі насельніцтва. Трэба хоць крыху думаць пра людзей — і тады можна вырашыць любое пытанне.

Праз друк, радыё трэба расказваць пра кнігі, іх аўтараў, таму што пэўная частка людзей проста ахоплена «модай» і мае вельмі прыблізныя веды аб кнігах. Гэта трэба дзеля таго, каб не ўзнікалі каля прыёмных пунктаў дыялогі тыпу: «Што даюць?» — «Купрына», «А што Купрына?» — «Штосьці пра індзейцаў». Канечне, вы здагадаліся, што гаворка ідзе пра Ф. Купера. Смешна? Не, не смешна. Ці яшчэ (гэта больш тыповы выпадак). Чалавек прынёс макулатуру і ў яго ёсць магчымасць выбраць абанемент. Ён губляецца, азіраецца і пытае: «Якая кніга лепшая?..»

Не ведаю, чым кіраваліся арганізатары «эксперыменту», павялічыўшы па яго ходзе вагу макулатуры, неабходную для атрымання талонаў, з 5 кілаграмаў да 10, а ў асобных выпадках і да 20 кілаграмаў. Толькі не інтарэсамі пажылых людзей, жанчын і дзяцей. Бо чытаць кнігі любяць не толькі фізічна развітыя мужчыны, для якіх несці 10 — 20 кілаграмаў дробязь. Трэба вярнуцца да той вагі макулатуры, якая была ўстаноўлена спачатку — 5 кілаграмаў.

Пакідаюць жадаць лепшага і многія пункты па прыёме макулатуры. У многіх выпадках — гэта былы прыватны дом з забітымі вокнамі, абадранымі шпалерамі ўнутры і захутанай ў дзесяткі апратак прыёмшчыцай. А ў непагодны час паспрабуйце дабрацца да пункту, як, напрыклад, на вуліцы Рэпіна, 4,— патонеце ў гразі.

Можна вывучыць вопыт кіяўлян. Там створаны і рэалізаваны тыповы праект прыёмнага пункту пад назвай «Стымул», у якім спалучаецца і эстэтыка і зручнасць як для людзей, якія там працуюць, так і для тых, хто туды заходзіць.

Трэба, канечне, выказаць некаторыя прэтэнзіі і да здатчыкаў макулатуры. Здаём часам макулатуру такую, што, зірнуўшы на яе, можна адразу сказаць, дзе чалавек працуе, а ўсе ж прадпрыемствы маюць ці, ва ўсякім разе, павінны мець свой план здачы макулатуры... Сустракаюцца і «кнігалюбы», якія з мэтай паскарэння здачы патрэбных 20 кілаграмаў маскіруюць у макулатуры, што трапіць на вочы — ад жалеза да цаглін.

У друку, асабліва ў апошні час, часта можна прачытаць вынікі рэйдаў, якія праводзяць супрацоўнікі ДАІ, правяраючы, як выкарыстоўваецца службовы аўтатранспарт. Правяраюць часцей на выездах з горада. Гэта добра. Але калі работнікі ДАІ пад'едуць да пунктаў па прыёме макулатуры, яны ледзь будуць паспяваць афармляць пратаколы на парушальнікаў. У пошуках абанементаў з пункту ў пункт ездзяць многія дзесяткі службовых машын. І хоць назвы іх розныя: «спецыяльная», «тэхналагічная» і г. д. (а то і без назвы) — усе яны ў дадзеным выпадку з'яўляюцца «пошукавымі».

Падвесці вынік сказанаму хочацца думкай: эксперымент, які яўна зацягнуўся, трэба перавесці на дзелавую аснову! І прыкласці да гэтага намаганні ўсім зацікаўленым у яго поспеху бакам.

**А. БІЛЫК,**
**выкладчык БПІ.**

УПЕРШЫНЮ ў «ЛІМе»

**Анатоль СЫС**



Анатоль Сыс нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Служыў у войску. Працаваў карэспандэнтам у Веткаўскай райгазеце. Зараз — на Беларускім тэлебачанні.

Удзельнік адной з рэспубліканскіх нарад у Каралішчавічах.

## *Балада сівога бусла*

У пахаванках і галашэннях
Радзімай і маці апетыя
салдаты, бы з мёрзлай зямлі насенне,
вярталіся з таго свету.

Ці быў то гарачы грузінскі вечар,
ці наш — з вуркатлівым громам,
дарогай з вайны — вечным Шляхам
Млечным —
салдаты ішлі дадому.

Далоні смылелі ад прыкрых мыліц,
натужна рыпелі пратэзы,
а маці чакала — кашулю мыла,
а бацька — на трох хлеб рэзаў.

За ціхай вячэрай, за белым абрусам
слязой частавалі сына.
Сеў на страху пасівелы бусел
нанова спраўляць радзіны.

●

Я думаў, пра вайну пісаць не маю
права —
мой белы конь не пасвіўся на мінным
полі,
мой белы верш не захлынаўся барвай.
Я думаў, пра вайну не напішу ніколі.

Ды выспеў дзень,
калі асколкі, кулі
скрозь сэрцы дрэў
маё дасталі сэрца,
скрозь душы дрэў
маю душу кранулі,
нібы па мне прайшла
мяжа
жыцця і смерці.

## *Чалавек, які падтрымлівае агмень*

Чалавек, які падтрымлівае агмень,
Чалавек, які беражэ каханне,
Чалавек, які моліцца хлебу,
Прыйдзі да мяне,
Прыгнечанага каменным горадам,
Разбітага няўдачамі і мітуснёй,
Раздражнёнага бюракратамі і
крывадушнікамі.

Я не буду дамагацца тваёй
дабрадзейнасці,
Я не буду дапытвацца,
Як падтрымліваюць агмень,
Берагуць каханне,
Моляцца хлебу.
Проста пасядзі са мной,
Мне будзе дастаткова тваёй
маўклівай прысутнасці,
І калі ты пакінеш мой дом —
Ты не пакінеш мяне.

## *У чароце птушка начавала*

З НАРОДНАГА

У чароце птушка начавала,
Ой-лю,
Пад галоўку крылечка падклала,
Ой-лю.

А як ночку мне заначаваці?
Не пускае ў хату мяне маці.

А чарот па возеры вяночкам,
Ночка, ахрысці майго сыночка,
А ў грудзях разбітае сардэнька,
Ночка, дзе мой любы казачэнька?

У чароце птушка начавала,
Ой-лю,
Пад галоўку крылечка падклала,
Ой-лю.

## *Сейбіт*

Ходзіць кругам усясветны сейбіт,
поўню з сонцам за сабой вядзе.
Лёс зямны адбіты ў зорным небе,
як аблічча сейбіта ў вадзе.

Лёс зямны адбіты ў зорным небе:
будзе дождж, і засуха, і град,
толькі сейбіт у сялянскім зрэб'і
рассявае жыта сярод ляд,

толькі сейбіт у сялянскім зрэб'і
поўню з сонцам водзіць за сабой,
век ад веку ён зямлёй не грэбуе,
век ад веку ён жыве зямлёй.

## *Серабрыстыя збаны*

Сымону СВІСТУНОВІЧУ

Серабрыстыя збаны,
міскі серабрыстыя
не спалілі тры вайны —
сілы тры нячыстыя.

Гартаваныя агнём,
перунамі хрышчаны,
закаціліся пад лён,
мо таму й не знішчаны.

Закаціліся пад мост,
мёду ў рот набралі
і чакалі, каб у хрост
на сталы падалі:

ешче старажытны мёд
з місак серабрыстых,
мёду, пэўна, дзвесце год,
міскам, можа й, трыста.

Гэта добрыя дзяды
з Вячкавых стагоддзяў
мёд даслалі, ад бяды
ў нашым радаводзе.

Акрыяў каб беларус,
памачыўшы ў мёдзе
зачасаны белы вус
па замежнай модзе.

## *Перад цыганскім дажджом*

Не з Дняпра, гэта з воч рыбакоў
вырастае вясёлка,
вось-вось-вось перакуліцца воблак з
цыганскім дажджом,
быццам з дробнаю рыбай кульнецца
кашолка
і луска заіскрыцца пад сонцам жывым
серабром.

Як маністы на нітку, на промні
наніжуцца кроплі,
Перуновы вятрыска абудзіць сурму за
Дняпром.
Сурмачовае гранне палоніць, як
прашчураў крокі,
І бадзяжлівы воблак за сонца сплыве,
як паром.

## *Словы*

Неба сыпала словы,
І пакуль да людзей
гэты дождж адмысловы
далятаў — ён радзеў.

Заставаліся тыя,
з якіх моцы ўзялі
дзеці бацюхны-Кія,
дзеці Крыўі-зямлі.

Тыя словы, як знічы,
як уздыхі сурмы,
боскім голасам клічуць
самых верных з гурмы.

Тыя словы, як вочы,
скажуць больш, чым паэт.
Той, хто чуў іх, не збочыць,
не ўцячэ ў іншасвет

ад лясоў верасовых
ад часовых нягод,
ад бацькоўскай высновы:
верай моцны народ!

ТЭАТРАЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

**Кастусь ГУБАРЭВІЧ**

# ПАЧЫНАЙ З СЯБЕ

«О дайте, дайте мне свободу, я свой позор сумею искупить...» — міжволі ўспамінаеш славутую арыю князя Ігара, калі чытаеш у саюзным і нашым друку выступленні рэжысёраў у дыскусіі аб сённяшнім становішчы ў тэатральнай справе.

А жаданай свабоды ім, быццам, не дае «кантора», як фанабэрыста і зняважліва названа імі Міністэрства культуры. Гэта яно, на думку дыскутантаў, ставіць тэатру палкі ў калёсы. Складаецца ўражанне, што каб не тыя палкі, на сцэне тэатраў «плясали б лес и горы».

**Што і казаць, палак, а то і бёрнаў, сапраўды хапае. На ўсю катушку яшчэ дзейнічаюць спарахнелыя інструкцыі паўвекавой даўнасці. Устаноўкі на фінансавы і вытворчы планы — краевугольны камень у дзейнасці кожнага тэатра. А канечны вынік гэтай дзейнасці — спектакль, то ўжо як бог дасць. Добра, калі добра, а сыдзе і пасрэдна, а то і... Якасць пакуль яшчэ не самы галоўны крытэрый сцэнічнай творчасці, хоць дэкларацыйнай «барацьбы» за высокі ідэйна-мастацкі ўзровень спектакляў хапае аж занадта. Асабліва — у міністэрскіх пастановах, рашэннях, дакладах і выступленнях. Шкада, што толькі — на словах. Ды і то сказаць, не міністэрства ж ставіць спектаклі, а тэатры. А ў тэатрах часам бывае, як у той байцы: «А кот Васька слухае ды есць...» Гэта не азначае, што тэатры міма вушэй прапускаюць заклікі да барацьбы за высокую якасць сваёй творчасці. Там гэта разумеюць не менш, чым у «канторы». І часцей чым дзе клянуцца «положить животы своя» ў барацьбе за якасць.**

**Але штосьці не відаць пакладзеных «жыватоў» на тэатральным рысталішчы. Зноў, відаць, вінавата «кантора». Не дае разгарнення, «свабоды».**

**А ці так?**

Гэтае пытанне я стаўлю не наогул, а спасылаючыся на свой вопыт шматгадовай працы ў сістэме Міністэрства культуры БССР і якраз — па лініі тэатральных спраў.

Менш за ўсё мяне хвалюе гонар міністэрскага мундзіра, які я даўно ўжо не нашу і не маю ахвоты абараняць яго. Праўду, толькі праўду, і нічога акрамя праўды, мне хочацца сказаць. А праўда ў тым, што з боку Міністэрства культуры не было аніякай дыктатарскай рэгламентацыі па цэлым радзе творчых пазіцый тэатраў рэспублікі. У выбары рэпертуару — у першую чаргу. Наадварот. Самастойнасць і неабмежаванасць рэпертуарнага выбару ў кожным тэатры былі як нідзе шырокімі.

У свой час нашы тэатры востра перажывалі крызіс рэжысёрскіх кадраў, змену іх пакаленняў. Міністэрства культуры вымушана было паставіць на чале многіх тэатраў маладых рэжысёраў, ідучы на свядомую рызыку. Ім было прадастаўлена шырокае права фарміравання рэпертуару.

Міністэрства культуры ў парадку кантролю вельмі рэдка не згаджалася з асобнымі рэпертуарнымі прапановамі маладых рэжысёраў, даючы ім тым самым паказаць сябе на п'есах, блізкіх ім, спрыяла творчым пошукам і самавыяўленню.

У канчатковым выніку, хоць і не так часта, але з'яўляліся спектаклі, пазначаныя навізной рэжысёрскага рашэння, сцэнічнай формы, сцэнаграфічных вобразаў і г.д. У пэўнай меры спадзяванні Міністэрства культуры на маладых рэжысёраў спраўдзіліся.

Але — у пэўнай меры.

**Пачало непакоіць іншае. На штогадовых калегіях Міністэрства культуры, дзе падагульняліся вынікі работы тэатраў за мінулы сезон, паўстала трывожная праблема: недабор гледачоў, або, па канцылярскай фармуліроўцы — «незапаўняльнасць» тэатральных залаў. І гэта было тым больш трывожна, што ў дзесяцімільённай рэспубліцы наогул мала тэатраў, а ў сталіцы ўсяго толькі тры драматычныя тэатры, якія, здавалася б, павінны быць паўнюткія пры паўтарамільённым насельніцтве Мінска...**

**Невядома, наколькі задумаліся Міністэрства культуры і ў першую чаргу — тэатры над трывожным сігналам. У першую чаргу — тэатры, бо за імі астаецца апошняе слова: благі ці добры паставяць яны спектакль. Але, мяркуючы па шэрагу выступленняў галоўных рэжысёраў на старонках «ЛіМа» ў дыскусіі па тэатральных справах, гэтая трывога да іх не дайшла. Вядома, слушнымі былі іх заўвагі і прапановы ў асноўным арганізацыйнага парадку, але галоўнае і самае балючае пытанне,— чаму зніжаецца прэстыж тэатраў рэспублікі сярод гледачоў, — асталося без адказу.**

Пачынай з сябе — такое патрабаванне паставіў перад кожным з нас XXVII з'езд партыі. А калі пачынаць з сябе, то трэба было б набрацца мужнасці і самакрытычна прызнацца, што канчатковы вынік работы тэатра— паўнацэнны спектакль — не стаў яшчэ цэнтрам творчых і арганізацыйных намаганняў у тэатральных калектывах. І з гэтага, па-мойму, трэба было б пачынаць размову, калі мець на ўвазе сур'ёзную перабудову тэатральнай справы ў рэспубліцы. Адначасова прызнаць бы і той факт, што ў рэпертуарнай палітыцы тэатраў часта пераважае рэжысёрскі суб'ектывізм. Гэтую п'есу я (рэжысёр) «бачу», а гэтую не. Купалаўскі і рускі тэатры, напрыклад, актыўна «не ўбачылі» п'есу «Іван» А. Кудраўцава, а Малы Акадэмічны тэатр СССР і больш за шэсцьдзесят тэатраў краіны — «убачылі»...

**На жаль, гэта не адзінкавы прыклад. Часам узнікае пытанне: а ці ўсе нашы рэжысёры ўмеюць прафесійна прачытаць п'есу, убачыць у ёй патэнцыял будучага, неабходнага гледачу, спектакля? Ці не зашмат спектакляў «убачаных» рэжысёрамі, але не цікавых для гледача?**

**Манапольнае права рэжысёра на «бачу» ці «не бачу», відаць, не той прынцып, які павінен быць у аснове рэпертуарнай палітыкі. Усесаюзны тэатральны эксперымент, які пачнецца ў наступным годзе, ва ўсякім разе ўдакладніць гэту праблему. Ясна адно: прэстыж тэатра шмат у чым залежыць ад рэпертуару. Але не толькі. Не меней (калі не болей) важна, як гэты рэпертуар будзе рэалізаваны на сцэне.**

Мне ў свой час даволі часта даводзілася быць удзельнікам камісій Міністэрства культуры па прыёме спектакляў. Мушу зазначыць: рэдка які спектакль аднадушна прымаўся «з першага прад'яўлення». Спектаклі, як правіла, былі недапрацаваныя, паспешлівыя, з рэестрам недахопаў рэжысёрскага, акцёрскага, сцэнаграфічнага парадку. Кіраўніцтва тэатра ў такіх выпадках клялося, што недахопы будуць выпраўлены, спектакль даспее па часе яго пракату і ўсё будзе як мае быць. А паглядзіш той жа спектакль праз нейкі час — і ніякага прыпёку. Як у той песні: якім ты быў, такім застаўся.

Ніякі тэатр, вядома, не плануе выпуск недапрацаваных спектакляў, але, часам, вымушаны пагаджацца і з такімі, бо над галавой вісіць дамоклаў меч невыканання вала. Дырэктар і рэжысёр добра ведаюць, што ў канцы года на калегіі міністэрства з іх стружку будуць здымаць не за якасць спектакля, а за невыкананне фінплана. А план і вал пакуль што святая святых у сённяшняй тэатральнай сістэме. Адгэтуль і творчыя кампрамісы, і невысокая якасць спектакляў, глядзець якія няма асаблівай ахвоты.

**Не вельмі кідаліся гледачы і на спектаклі, нашпігаваныя рознымі ультрамоднымі «навацыямі». Адна з іх — самая ўедлівая і самая бязглуздая — сцэнічная мова, калі такой можна назваць акцёрскае мармытанне сабе пад нос, якое нічым іншым, як здзекам над гледачамі, не назавеш, бо далёка не заўсёды зразумела, што адбываецца на сцэне. Паглядзіш такі шаптальны спектакль раз-другі, а на трэці ўжо сабакамі не загоніш і другому не параіш. Як многа страцілі ў вачах гледачоў нават такія тэатры, як купалаўскі і рускі, клюнуўшы на гэтую бязглуздую моду!**

**Нямала гледачы пацярпелі і ад сцэнаграфічных «навацый». Хто не памятае славутыя вяроўкі, што запаланілі (і запаланяюць) сцэны ледзь не ў кожным спектаклі, сярод якіх акцёры блыталіся, губляліся і не ведалі, што рабіць?**

**А колькі было розных аголеных жалезных канструкцый, якія не выклікалі ніякіх эмоцый, акрамя недаўменных пытанняў у гледачоў: няўжо рабочыя сцэны не паспелі да пачатку спектакля закончыць дэкарацый?.. Або чаму гэта англійская каралева ходзіць па сцэне ў нейкім брудным, зрэбным балахоне? Можа, адзенне каралевы не па кішэні тэатру?**

**Што і казаць, агрэсія антыэстэтыкі зрабіла сваю чорную справу. Спектаклі страцілі сваю рамантыку, святочнасць.**

Адвярнула гледачоў ад многіх спектакляў і яшчэ многае, пра што больш дакладна маглі б сказаць рэжысёры, дырэктары, мастацкія саветы тэатраў, калі б яны набраліся смеласці і самакрытычна паставіліся да сябе. Пакуль не набраліся. Пакуль тэатры ківаюць на «кантору», хоць добра ведаюць, што ідэйна-мастацкая якасць спектакля ў першую чаргу залежыць ад тэатра.

**З НАРОДНЫХ КРЫНІЦ**

# МАЙСТАР

Жывуць у вялікім горадзе суседзі і адзін аднаго не ведаюць. А ў вёсцы? Уся вуліца—радня. А калі ты яшчэ майстар на ўсе рукі, дык і ўсё навакольле з табой родніцца.

Памятаю, недзе два дзесяткі гадоў назад на раённую выстаўку народных умельцаў Міхаіл Нічыпаравіч Люлько прынёс пісьмовы прыладак з пластыку і металу. Тонка і дакладна зроблена асноўная яго частка — Спаская вежа Крамля. Дзесяткі запісаў пакінулі тады людзі ў кнізе водгукаў. Работа была ўдастоена першай прэміі ў раёне і вобласці.

У доме ўмельца пад майстэрню прыстасаваны невялікі пакойчык. Нажданкі і фуганкі, свёрлы і калёўкі, напільнікі і стамескі—усё знойдзеш у руплівага гаспадара.

Зайдзіце ў хату Люлько, і вы ўбачыце рэчы, ад якіх нельга адвесці вачэй. Вось камода. Яна зроблена з чыстага дуба з густам і вельмі ўдала. Дарэчы, такія камоды па просьбе Міхаіл Нічыпаравіч зрабіў многім жыхарам горада. Хто не прыйдзе, напрыклад, у дамы Багдановічаў, Мішыных, Ляневічаў—усе захапляюцца гэтымі зручнымі рэчамі. Нездарма ў народзе кажуць, што чалавек жыве век, а добрая справа—два. Жыхары вуліцы, на якой жыве М. Люлько, ідуць да яго па дапамогу і параду, бо ведаюць, што ён ніколі не адмовіць.

У кватэры Міхаіла Нічыпаравіча многае зроблена рукамі самога майстра: стол з разнымі ножкамі, кухонны буфет з вольхі, карнізы. Але, бадай, больш за ўсё прыводзіць у захапленне мудрагелісты корпус старадаўняга гадзінніка, які зроблены таксама з дубу. Праект корпуса—вынік багатай фантазіі і тонкага густу Міхаіла Нічыпаравіча. Рэч гэтая, можна сказаць, унікальная.

Творчасць ветэрана Вялікай Айчыннай вайны М. Люлько вартая высокай пахвалы. Няхай жа вучыцца ў яго моладзь, няхай ведае, што могуць чалавечыя рукі.

Т. РЭУТОВІЧ.
г. Старыя Дарогі.

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

# ПРА ЦЯЖКАСЦІ АБ'ЕКТЫЎНЫЯ...

## Расказ дырэктара Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтамабільнага завода М. КАПШАЯ

**Сёлета аддзел культуры «ЛіМа» вырашыў павесці гаворку пра дзейнасць клубаў, палацаў і дамоў культуры, культурна-спартыўных комплексаў, пра арганізацыю вольнага часу працоўных у культасветустановах рэспублікі. Мы звярнуліся з просьбай да лепшых работнікаў культуры горада і сяла адказаць на пытанні нашай анкеты, у прыватнасці, на такія, як праблемы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння клубаў, павышэнне прэстыжу прафесіі культасветніка, эфектыўнасць выкарыстання культурных і спартыўных збудаванняў, адносіны да культработніка на месцы з боку кіраўнікоў гаспадарак, прадпрыемстваў і ўстаноў.**

**Сёння сваімі думкамі на старонках штотыднёвіка дзеліцца дырэктар Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтамабільнага завода М. Капшай.**

Памятаю, летась на старонках «Літаратуры і мастацтва» генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «БелаўтаМАЗ» Міхаіл Фёдаравіч Лаўрыновіч гаварыў і пра дзейнасць палаца. Гаварыў зацікаўлена, слушна. Так, сапраўды, цяжка не пагадзіцца з тым, што тэхнічная творчасць у параўнанні з самадзейнай мастацкай у нашым палацы развіваецца пакуль што марудна. Яскрава сведчаць пра гэта і нашы справаздачныя лічбы: усяго калектываў, клубаў па інтарэсах і аматарскіх аб'яднанняў — дарослых і дзіцячых — 92, а гурткоў тэхнічных—толькі 10, з іх—2 прыкладной і 8 мастацкай тэхнічнай творчасці. Скажыце, сумная карціна? Так, пакуль што пахваліцца няма чым. Тым больш, што палац называецца — культуры і тэхнікі.

Але давайце паразважаем, у чым тут прычына. У нашым няўменні ці нежаданні арганізаваць людзей? Зусім не. Дык у чым жа? — спытаеце вы. Мой адказ мо хтосьці ўспрыме скептычна, маўляў, няма чаго спасылацца на цяжкасці — аб'ектыўныя або яшчэ якія, працаваць лепш трэба. Пагаджуся. І тым не менш, аб'ектыўныя прычыны існуюць. У нашым, адным з самых буйных Палацаў культуры горада, няма памяшкання, дзе б можна было разгарнуцца аматарам тэхнічнай творчасці. Ёсць у нас два пакойчыкі, дзе стаяць такарныя і слясарныя станкі. Некалькі чалавек могуць тут майстраваць, вырабляць невялікія дэталі. А што рабіць тым, хто збіраецца заняцца аэрасанямі? Ну а тым, хто хоча сваімі рукамі сканструяваць і цалкам сабраць, напрыклад, мотаблокі для садовых участкаў? Не сакрэт, што вытворчасць не паспявае задаволіць попыт агароднікаў-аматараў на гэтую дэфіцытную прадукцыю, а многія рабочыя і служачыя аўтазавода, якія маюць сёння дзялянкі ў садовых кааператывах, маглі б, між іншым, вось тут, у сценах палаца, стварыць усе неабходныя для сябе механічныя прыстасаванні. Але зноў жа — дзе?

Скажу шчыра, скардзіцца нам на адміністрацыю, на заўком, здавалася б, няма падстаў. Робяць яны для палаца шмат, і за гэта — вялікае дзякуй усім, хто нас матэрыяльна і маральна падтрымлівае. Але зноў жа — наконт рэканструкцыі ўстановы культуры. Не адзін раз мы звярталіся з прапановай да адміністрацыі аб прыбудове да палаца дадатковага памяшкання. Можна было б тут размясціць і зручныя пакоі для работы тэхнічных гурткоў, стварыць выставачную і танцавальную залы...

Дарэчы, пра танцавальныя вечары. Калі наладжаны вечар адпачынку, дык у глядзельнай зале «круціць» кіно ўжо нельга, бо гэта несумяшчальнае суседства. А ўзяць хоць бы бальныя танцы. Гэты прыгожы від аматарскай творчасці развіваецца ў нас пакуль што толькі ў клубе комплексу інтэрнатаў завода. А моладзь, якая наведвае непасрэдна палац, патрабуе — давайце бальныя танцы і нам!

Што ж атрымліваецца? Вялікая будыніна з самага свайго зараджэння была ўжо мёртванароджаным дзіцем. Мо сказана і надта рэзка, але гэта сапраўды так. Па сутнасці, мы перанеслі ў новы палац усе тыя формы работы, якія існавалі ў старым невялікім заводскім клубе. А на большае — не хапае памяшкання. Нават з калектывамі самадзейнай мастацкай творчасці — часам нявыкрутка. Рэпетыцыі адбываюцца канвеерным метадам: не паспее сысці са сцэны хор, якому сёння няма дзе больш займацца, як на пяткі яму наступае іншы калектыў... Аматараў цыркавога мастацтва прытуліла падшэфная школа, але столі ў будынку невысокія, зразумела, што і заняткі ідуць напаўсілы.

Дык што ж спраектавалі ў свой час нашы паважаныя архітэктары? Хутчэй за ўсё «відовішчную» ўстанову, а не клуб для індывідуальнай работы з людзьмі. А між тым, глядзельная зала палаца на кінасеансах і канцэртах сапраўды не надта загружана, бо ў горадзе ёсць шмат магутных нашых канкурэнтаў, накшталт філармоніі, тэатраў і зручных кінатэатраў.

Я заўсёды здзіўляюся такім інфармацыям пра новыя клубы, дамы культуры, дзе паведамляецца, напрыклад, гэткае: пабудавана зала на 800 месц і некалькі, падкрэсліваю, **некалькі** пакояў для клубнай работы. А дзе ж сёння тая ж більярдная, кафэ, у якім можна было б пакаштаваць смачныя безалкагольныя напіткі, марожанае, сок? А дзе гасціныя для аматарскіх аб'яднанняў, напрыклад, музычная? Асабіста я ўяўляю сабе ўтульныя пакоі з музычнымі інструментамі, прайгравальнікамі, магнітафонамі, фанатэкай, дзе кожны меў бы магчымасць узяць навушнікі і, нікому не перашкаджаючы, паслухаць новыя запісы, перапісаць іх. Пад клуб гітарнай музыкі, заўважу, класічнай гітарнай сямістрункі, мы пакуль што прыстасавалі цокальны паверх палаца; абсталявалі дыска-пульты для дыскатэкі, якая таксама будзе працаваць тут. Вырашаем пытанне і з нашым буфетам, які мяркуем назваць «кафэ-клуб» і які будзе займацца да таго ж антыалкагольнай прапагандай. Дарэчы, на яго базе ўжо праходзіла безалкагольнае вяселле. Але трэба, відаць, нам разам са службамі грамадскага харчавання падумаць пра тое, хто будзе стаяць за прылаўкам, дакладней, барнай стойкай гэтага «кафэ-клуба». На жаль, наша буфетчыца, якая працуе сёння, зусім не для гэтай ролі, нізкаваты яе культурны ўзровень...

Але ж не толькі ў сценах палаца мы павінны працаваць. Культработнікі ідуць у мікрараёны, на агітпляцоўкі. Ад нас патрабуюць вялікай і сістэматычнай работы па месцы жыхарства працоўных. Гэта — наш абавязак. Аднак патрабаванні да нас прад'яўляюць без уліку ўмоў для канцэртнай і агітацыйнай дзейнасці. Дзе ж тыя агітпляцоўкі, куды можна людзей запрасіць, пасадзіць, дзе можна даць паўнацэнную мастацкую праграму? У адказ нам гавораць: «Няма агітпляцоўкі — выступайце на прыступках кінатэатра». Што застаецца рабіць? Выступаем. А між тым, вось як гэта нам потым можа адгукнуцца. Карцінка: Васіль спявае, а Пятро яму акампаніруе на баяне на прыступках кінатэатра ў спякоту ці дождж. Алесь у гэты час спяшаецца на кінасеанс. Спыняецца ён на хвіліну перад знаёмым узмакрэлым Васілём і думае: хацеў запісацца ў самадзейны калектыў, а цяпер няма дурных. Прыкладна тое ж самае думаюць і Вані, Сярожы, Любы...

Вось цяпер, відаць, наспеў час пагаварыць пра прэстыж культработніка, пра адносіны да яго з боку вышэйстаячых інстанцый. Ніколі не забуду, як адзін з кіруючых работнікаў пасля запісу на тэлебачанні з нейкай пагардай сказаў: «Вы хоць бы запрасілі нас у свой клуб»... А ў вачах — ні ценю цікаўнасці. Або — праверкі, якія забіраюць шмат часу, нерваў. Проста бяда. Часам іх даручаюць рабіць зусім недасведчаным людзям. Але ў нашай справе ўсе лічаць сябе спецыялістамі. Нядаўна прыйшла ў палац жанчына па даручэнні гарвыканкома правяраць работу культурна-спартыўнага комплексу. Пытаецца: як працуюць гурткі ў комплексе? Спрабую ёй растлумачыць, дзе можна атрымаць патрэбную інфармацыю і праверыць стан справы. Зноў задае тое ж пытанне. Словам, нічога не зразумела, пайшла. Потым тэлефонны званок: «Вы мне ўсё ж падрыхтуйце даведку аб рабоце культурна-спартыўнага комплексу». Я не вытрымаў і адказаў: «Даведку вам пісаць не буду. Чаго вартая такая фармальная праверка?» Так, фармалістыка, работа па-старому яшчэ засталася. І дзе-нідзе лозунг «меней папер — болей справы» яшчэ абыходзяць бокам. А наконт заводскага культурна-спартыўнага комплексу скажу: ён жыве, дзейнічае. Не фармальна. Цікавейшымі сталі спартыўныя мерапрыемствы, працуюць клубы аматараў тэніса, футбола, картынга, бегу і г. д. У зімовы час максімальна выкарыстоўваем палац, дзе праводзім дні сямейнага адпачынку, летам — паркі, мікрараёны. Нядаўна правялі свята вуліцы Убарэвіча, на якое прыязджала дачка героя. Словам, жыццё само аб'яднала культуру і спорт.

Але мне зноў хацелася б вярнуцца да прэстыжу нашай прафесіі. Закранём цяпер іншы аспект гэтай праблемы — кадры, чалавечы фактар. Чаму культработнік стаіць сёння на самай нізкай прыступцы сярод усіх творчых прафесій? Думаю, тут не столькі наша віна, колькі бяда. Навучальныя ўстановы культуры даюць сваім выхаванцам шмат ведаў і мала ўменняў, прымаюць у лік студэнтаў больш па адзнаках на экзаменах, чым па іх творчых здольнасцях. У выніку да нас прыходзіць спецыяліст, які мае вышэйшую адукацыю, але прафесійна ніякі не варты. Ён не здольны арганізаваць людзей, напісаць сцэнарый, апрацаваць патрэбны матэрыял, знайсці ход для яго падачы. Ён не валодае творчай фантазіяй, элементарнымі навыкамі сацыёлага, псіхолага, не ўмее кантактаваць з людзьмі. Ды і на сцэну яго не выпусціш, бо часам у яго ў роце, прабачце, каша. Дык куды ж глядзяць нашы дацэнты і прафесары ў інстытуце? Чаго варты той спецыяліст з чырвоным дыпломам? Вось і абыходзішся старымі выпрабаванымі кадрамі.

Пытанне забеспячэння. Многія нашы добрыя ідэі разбіваюцца аб бар'еры, звязаныя з матэрыяльнай базай. Дзе, напрыклад, набыць тую ж кававарку або міксеры для малочнага кактэйля? Як «дастаць» фотаматэрыялы, фарбы, магнітныя стужкі? Пералікам можна займацца бясконца. Але, думаю, лепш падумаць пра адкрыццё ў Мінску спецыялізаванага базіснага магазіна, які забяспечыў бы нашы патрэбы. Адкрыць такія магазіны варта і ў абласных цэнтрах.

І яшчэ. Рэклама. Усім зразумела, якую ролю ў далучэнні людзей да культурных мерапрыемстваў маюць прыгожыя афішы, запрашальныя білеты, праграмкі. Але размеркаваць гэты заказ па друкарнях горада, дзе яго ў стане якасна выканаць, немагчыма. Патрабуюць паперу, не хочуць, як там выказваюцца, валэндацца з нашай дробяззю. А ці гэта дробязь, тым больш тое, што мае дачыненне да слова «культура»? А вось калі б нейкі аўтарытэтны орган замацаваў сваім рашэннем палацы і дамы культуры за друкарнямі, і мы перасталі б быць на правах бедных родзічаў, плён быў бы лепшы.

Запісала Л. КРУШЫНСКАЯ.

*Да 175-годдзя з дня нараджэння В. Р. Бялінскага*

# «Нястрымны Вісарыён»



АЛЯКСАНДР Бястужаў, вядомы рускі пісьменнік - дзекабрыст, неяк сказаў: «У нас ёсць крытыка, але няма літаратуры». Пушкін, сустрэўшы гэта выказванне, не згадзіўся з ім. Наадварот, заўважыў ён, «літаратура такая-сякая ў нас ёсць, а крытыкі няма». Паэт меў на ўвазе крытыку, якая актыўна садзейнічала б развіццю рускай літаратуры, дасягненню ёю творчай сталасці, мастацкасці, праўдзівасці. Гэтыя словы былі сказаны паэтам у 1825 годзе.

Менш чым праз дзесяць год у маскоўскай газеце «Молва», штотыднёвым дадатку да часопіса «Телескоп», з'явіўся артыкул «Літаратурныя мары», які сваёй эстэтычнай канцэпцыяй і смелым адмаўленнем традыцыйных літаратурных уяўленняў звярнуў на сябе ўвагу паэта. Пушкін прадказаў яе аўтару вялікае будучае і меў намер запрасіць супрацоўнічаць яго ў «Современник», які паэт заснаваў у 1836 годзе. Словы Пушкіна аказаліся прарочымі. Аўтар гэтага артыкула Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі (1811–1848) сапраўды адыграў вялікую ролю ў гісторыі рускай літаратуры — ён па праву лічыцца заснавальнікам рускай рэалістычнай крытыкі і эстэтыкі, выдатным прадстаўніком філасофскай і грамадска-палітычнай думкі мінулага стагоддзя. Побач з Герцэнам і Чарнышэўскім У. І. Ленін назваў Бялінскага папярэднікам рускай сацыял-дэмакратыі.

Творчая дзейнасць Бялінскага працякала ў 30—40 гады XIX стагоддзя ва ўмовах поўнага засілля палітычнай рэакцыі, якая пачалася пасля паўстання дзекабрыстаў, дэспатычнага кіравання Мікалая I. I грамадзянская мужнасць Бялінскага заключалася ў тым, што нават у гэты беспрасветны перыяд рускай гісторыі, калі бязлітасна выкараняліся і знішчаліся спробы ўсякага праяўлення свабоднай думкі, ён успрыняў і дастойна працягнуў закладзеныя дзекабрыстамі традыцыі вызваленчай барацьбы. Выказваючы інтарэсы шматмільённых сялянскіх мас, ён паслядоўна праводзіў у падцэнзурнай журналістыцы антыпрыгонніцкія, антысамадзяржаўныя ідэі. Яго палымяная публіцыстыка паспяхова процістаяла шматгалосай рабалепнай рэптыльнай прэсе, масе афіцыйных кніг і часопісаў, служыла сродкам фарміравання перадавой грамадскай думкі, прагрэсіўнай грамадскай самасвядомасці. Мяцежны геній Бялінскага, які спалучаў у сабе глыбокі філасофскі розум, тонкае эстэтычнае пачуццё і незвычайны літаратурны талент, на працягу амаль пятнаццаці гадоў стаяў на варце інтарэсаў прыгнечаных і гатовы быў у любую мінуту, паводле слоў Герцэна, высмеяць, «выкрыць, закляйміць усё, што лічыў рэакцыйным».

Гэтай пастаяннай, няспыннай барацьбе з афіцыйнай руцінай, з рэакцыйнымі поглядамі, з казённым патрыятызмам Бялінскі прысвяціў сябе цалкам, выяўляючы ў кожным напісаным ім артыкуле перакананага барацьбіта, стойкага прапагандыста перадавых ідэй, палымянага патрыёта сваёй Радзімы. Менавіта за гэты палітычны радыкалізм, за страснасць і цэльнасць яго натуры сябры называлі Бялінскага «нястрымным Вісарыёнам».

Веліч Бялінскага заключалася перш за ўсё ў тым, што ён адкрыў сучаснікам і нашчадкам рускую класічную літаратуру, яе высокую мастацкасць, яе выдатныя творчыя дасягненні. Ён першы назваў яе «вялікім нацыянальным здабыткам».

Дарэчы напомніць, што тыя ўяўленні, якія існуюць у нас аб Пушкіне і якія назаўсёды ўвайшлі ва ўсе падручнікі па рускай літаратуры, упершыню былі выказаны Бялінскім. Аб тым, як успрымалі сучаснікі яго артыкулы пра Пушкіна, можна меркаваць па выказваннях Льва Талстога. Ён, прачытаўшы неяк адзін з адзінаццаці артыкулаў Бялінскага пра вялікага рускага паэта, сказаў: «Артыкул пра Пушкіна — цуд. Я толькі цяпер зразумеў Пушкіна».

Следам за Пушкіным Бялінскі «адкрыў» для шырокага чытача Гогаля, прадугадаўшы значэнне яго творчасці для рускай літаратуры. Ён разгледзеў у Гогалі «незвычайны талент», што зусім пярэчыла поглядам Булгарына, Грэча і іншых прадстаўнікоў ахоўнай журналістыкі. Ён даў верную ацэнку творчасці Лермантава, Крылова, Кальцова.

Вялікі рускі крытык быў прызнаным ідэйным кіраўніком і натхніцелем «натуральнай школы», з якой выйшлі такія выдатныя рускія пісьменнікі, як Някрасаў, Тургенеў, Герцэн, Ганчароў, Дастаеўскі.

Такім чынам, дзейнасць Бялінскага ўпершыню ў Расіі вывела літаратурную крытыку на арэну грамадскай барацьбы, паставіла яе на службу інтарэсам прагрэсіўнага развіцця грамадства. Бачачы ў літаратуры выяўленне духоўных сіл народа, яго генія, яго перадавых сацыяльных ідэалаў, Бялінскі сваёй дзейнасцю ўсямерна садзейнічаў развіццю маладых талентаў. Ужо ў першых сваіх публікацыях ён заявіў: «Каб ісці наперад... патрэбны таленты свежыя і моцныя».

У барацьбе супраць рэакцыйных напрамкаў у літаратуры і літаратурнай крытыцы выпрацоўвалася эстэтычная тэорыя Бялінскага. Вялікі рускі крытык разглядаў мастацтва як творчае адлюстраванне рэчаіснасці. Аднак мастацтва, паводле Бялінскага, павінна не толькі адлюстроўваць рэчаіснасць, але і актыўна ўдзельнічаць у яе пераўтварэнні, у служэнні інтарэсам прагрэсіўнага развіцця грамадства.

«Усе грамадскія асновы нашага часу, — пісаў Бялінскі,— патрабуюць карэннай перабудовы». Свае надзеі на лепшую будучыню ён звязваў з сацыялізмам. Ён заяўляў, што ідэя сацыялізму стала для яго «ідэяй ідэй, быццём быцця, пытаннем пытанняў, альфаю і амегаю веры і ведаў. Усе з яе, для яе і да яе. Яна пытанне і вырашэнне пытання». Ён марыў аб такім грамадстве, дзе «не будзе багатых, не будзе бедных, ні цароў і падданых, але будуць браты, будуць людзі». Здагадкі Бялінскага пра будучае грамадства глыбока ўздзейнічалі на розумы сучаснікаў.

Адна з асаблівасцей сацыяльна-утапічных поглядаў Бялінскага заключалася ў тым, што ў адрозненне ад Герцэна і Чарнышэўскага ён не быў прыхільнікам абшчыннага сацыялізму. Мысліцель прадбачыў, што шлях да новага грамадства ляжыць праз развіццё буржуазных адносін. Бялінскі лічыў, што знішчыць сацыяльнае рабства можа толькі народная рэвалюцыя. І хоць ён не выказаў у прамой форме лозунга сялянскай рэвалюцыі, як гэта зрабілі Чарнышэўскі і яго паплечнікі і паслядоўнікі — Шаўчэнка, Каліноўскі і іншыя, але па сутнасці ён першым прыйшоў да вываду, што пераход да новага грамадства можна ажыццявіць толькі рэвалюцыйным шляхам. Такім чынам, Бялінскі

# Духоўны настаўнік

«СЯРОД найвялікшых імёнаў свету, што нязменна хвалююць чалавечае сэрца, ззяе імя вялікага сына рускага народа Вісарыёна Бялінскага,— з пачуццём шчырай удзячнасці адзначаў Пятрусь Броўка.— Кожны, хто любіць і ведае Пушкіна, Гогаля, Лермантава, Кальцова, Тургенева, ведае і любіць бессмяротныя творы Бялінскага, якія спрыяюць жывой думцы, падтрымліваюць чалавека ў барацьбе за свабоду і справядлівасць. Ён быў не толькі найвялікшым мысліцелем, ён быў вялікім і бясстрашным змагаром, палкім барацьбітом супраць самадзяржаўя і прыгонніцтва... Ён зрабіўся сцягам перадавой грамадскасці, якая змагалася за адмену прыгоннага права. Слова яго гучала набатам па ўсёй Расіі, абуджала і клікала наперад усё лепшае, што было ў ёй».

Класікі беларускай літаратуры далі высокую адзнаку дзейнасці Бялінскага. Янка Купала і Якуб Колас успрымалі яго як выдатнага дзеяча рускай культуры і рускага рэвалюцыйнага руху, як праніклівага крытыка і буйнога філосафа. Яны адзначалі вялікія заслугі Бялінскага перад Расіяй, лічылі яго жыццё подзвігам, прыкладам служэння народу і радзіме.

В. Г. Бялінскі адыграў значную ролю ў фарміраванні і развіцці светапогляду і эстэтычных прынцыпаў заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры Купалы і Коласа. У яго творах яны знаходзілі пацвярджэнне свайму роздуму аб рэвалюцыйным пераўтварэнні Расіі, чэрпалі дадатковыя сілы для самаадданай барацьбы з самадзяржаўна-прыгонніцкім ладам. Яны былі ўдзячныя вялікаму крытыку за ўвагу да Беларусі, за яго заклапочанасць лёсам паднявольных беларускіх сялян. Бялінскі спачувальна ставіўся да жыцця прыгнечанай беларускай вёскі, яшчэ ў сярэдзіне 40-х гадоў XIX стагоддзя лічыў пахвальнай мэтай «представить картину состояния белорусских крестьян».

Купалу і Коласу, выразнікаў болю і гора сялянскага, — усяго таго, што «накіпела праз доўгія гады цярпення і акружаючай беспрасветнай нядолі» ў душы беларускага народа, падтрымліваў прыклад бязлітаснага выкрыцця Бялінскім жорсткай эксплуатацыі, бесчалавечнасці прыгонных законаў, драпежніцкай буржуазнай маралі.

Купалу і Коласу былі сугучнымі думкі Бялінскага аб ідэйнасці і народнасці літаратуры, аб неабходнасці эвалюцыі яе рэалістычнага напрамку, аб непрыманні «чыстага мастацтва». Так, у артыкуле «Чаму плача песня наша?» (1913) Купала горача выступіў супраць буржуазна-ліберальнага крыла нашаніўцаў, што заклікалі «ўславіць гоман бору, пляск вады, задуму змрокаў, ясноту ўсходу» і ўміляцца лёсам сялянскім. Беларускі пясняр заклікаў не абмінаць і не замоўчваць штодзённага жыцця, перабудоўваць яго «паводле божых і чалавечых праўд і законаў». Ён адстойваў рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак развіцця роднай літаратуры, бачыў у беларускіх пісьменніках, верных сыноў свайго народа, змагароў за вызваленне з-пад класавага прыгнёту, за тое, каб працоўным «дабыць усё хараство свету і ўсе асалоды жыцця людскога».

Яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады Купала і Колас успрынялі выступленні рускага крытыка супраць шавінізму, бязроднага касмапалітызму і нацыянальнай абмежаванасці. Так, галоўны герой коласаўскай трылогіі «На ростанях» настаўнік Андрэй Лабановіч у спрэчцы з нацыяналістычна падбухторанымі апанентамі гаворыць, выказваючы і аўтарскі пункт гледжання: «Вы валіце ў адну кучу рускую школу і русіфікатарства. Русіфікатарства — гэта самаўладная царская нацыянальная палітыка. Не прызнаю яе, змагаюся супраць яе, як умею. А руская школа для мяне — гэта Пушкін, Бялінскі, Грыбаедаў, Гогаль, Лермантаў, непаўторны Іван Андрэевіч Крылоў... Вось мая руская школа».

Купалу і Коласа ўражвала здольнасць Бялінскага прадбачыць ход гістарычнага руху. «За сто гадоў да нашага часу яго геніяльны зрок сягаў у сённяшні дзень»,— адзначаў Колас. Непарыўная сувязь з жыццём дапамагала пачынальнікам сучаснай беларускай літаратуры зразумець характар гістарычнага працэсу і, як вялікаму папярэдніку, зазірнуць наперад, прадказваць вызваленне народа ад усіх форм прыгнечання і эксплуатацыі. Купала прадракаў: «Астаецца нам толькі адна вера ў тое, што не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ, як адзін, к новаму, светламу жыццю, а яго паэты-пракокі настрояць струны сваіх думак на іншы лад: будуць пяяць аб вялікім багацці і красе сваёй бацькаўшчыны і аб вялікіх радасцях яе верных сыноў» (1913).

Творы Бялінскага заставаліся настольнымі кнігамі Купалы і Коласа і ў савецкі час. Аб гэтым знаходзім сведчанні асобных беларускіх пісьменнікаў. Так, П. Глебка ўспамінаў, як аднойчы павёў з Купалам размову пра сімвалізм і рамантызм і зазначыў, што не бачыць паміж імі асобай розніцы. Купала не згадзіўся: «Не кожная рамантыка — сімвалізм. Вы лепш... чытайце Бялінскага». Ён працягнуў маладому паэту кнігу Бялінскага і паказаў на наступныя радкі: «Рамантызм, без жывой сувязі і жывога дачынення да іншых бакоў жыцця, ёсць найвялікшая аднабаковасць».

Для Купалы Бялінскі заўсёды быў узорам крытыка, занепакоенага лёсам грамадства і літаратуры. У складаныя перыяды жыцця творы рэвалюцыянера-дэмакрата падтрымлівалі ў ім мужнасць, веру ў перамогу праўды, у вялікае прызначэнне роднай літаратуры, у развіццё яе лепшых традыцый. На рубяжы 20 — 30-х гадоў, калі вульгарызатарская крытыка прыпісвала Купалу ўяўныя грахі, скажала яго творчы шлях, пафас яго вершаў, ідэі і думкі Бялінскага дапамагалі процістаяць ілжывым абвінавачванням, з гонарам пераносіць усе нягоды, за шумам і траскатнёй бачыць галоўнае ў літаратуры, застацца верным сабе. Бялінскі таксама быў яго саюзнікам у падтрымцы ўсіх здаровых сіл у беларускай літаратуры, у выхаванні новага пісьменніцкага пакалення. Купала абараняў таленавітую моладзь ад нападкаў рознай «літаратурнай навалачы». Цікавыя ўспаміны пра гэта М. Лужаніна. У пачатку трыццатых гадоў на адным з пісьменніцкіх сходаў яго ні за што, ні пра што «прапясочылі», груба абразілі. Купала абурыўся, дэманстратыўна, у знак пратэсту падняўся і пакінуў залу. Ён не змог застацца абыякавым да незаслужанай крыўды маладога паэта, якога публічна зняважылі. Купала запрасіў малодшага сябра да сябе ў госці, супакоіў яго, пераканаў, што не варта так моцна перажываць ад пустых і злых нападкаў: час усё паставіць на сваё месца, усяму вынесе свой справядлівы прысуд. «Іван Дамінікавіч дастаў з паліцы томік Бялінскага і прачытаў невядомыя мне ў той час радкі аб зайздрасці ўнукам і праўнукам, якія ўбачаць Расію на чале адукаванага свету, заканадаўцам навукі і мастацтва.

— Такою і мне відна наша Радзіма. А хто гэтага не разу-

з'яўляецца першым рускім рэвалюцыянерам - дэмакратам, «папярэднікам поўнага выцяснення дваран разначынцамі ў нашым вызваленчым руху...» (У. І. Ленін).

Яркім сведчаннем рэвалюцыйнага дэмакратызму Бялінскага з'яўляецца яго славутае пісьмо да Гогаля, напісанае ў ліпені 1847 года. У ім вялікі крытык сфармуляваў сваё палітычнае крэда — знішчэнне прыгоннага права, адмена цялесных пакаранняў, захаванне элементарнай законнасці. Гэта было палітычнае завяшчанне Бялінскага, якое У. І. Ленін назваў «адным з лепшых твораў бесцэнзурнага дэмакратычнага друку». Пісьмо Бялінскага да Гогаля, якое ўзрушыла ўсю думаючую Расію, рэакцыя прызнала злачынным. Яго чытанне на пятніцах Петрашэўскага ставілі ў віну ўдзельнікам гэтага першага ў Расіі сацыялістычнага гуртка, і ў прыватнасці, Дастаеўскаму. Самадзяржаўе пачало рыхтаваць расправу над Бялінскім. Толькі заўчасная смерць выратавала яго ад арышту і зняволення. Зламаны пастаяннай галечай і няспыннай напружанай працай, Бялінскі не дажыў нават да 40 год— узросту, які лічыцца часам вышэйшага росквіту духоўных і фізічных сіл чалавека.

Работы Бялінскага ў галіне літаратурнай крытыкі, эстэтыкі, філасофіі і сацыялогіі склалі эпоху ў гісторыі рускай грамадскай думкі. Яны знаходзілі шырокі водгук у сваіх сучаснікаў. «Тысячы людзей, — пісаў Чарнышэўскі, — зрабіліся людзьмі дзякуючы яму. Цэлае пакаленне выхавана ім». Аб тым, якой каласальнай папулярнасцю ў перадавой моладзі Расіі таго часу карыстаўся Бялінскі, можна меркаваць па ўспамінах В. В. Стасава, які стаў потым адным з буйнейшых дзеячаў рускай дэмакратычнай культуры: «Бялінскі ж быў — сапраўдным нашым выхавацелем. Ніякія класы, курсы, пісанне сачыненняў, экзамены і ўсё іншае не зрабілі столькі для нашай адукацыі і развіцця, як Бялінскі са сваімі штомесячнымі артыкуламі... Ён прачышчаў усім нам вочы, ён выхоўваў характары, ён сек рукою волата патрыярхальныя забабоны, якімі жыла да яго ўся Расія».

Ідэі Бялінскага ўжо пры жыцці крытыка былі шырока вядомы ў Беларусі. Яны распаўсюджваліся тут як праз часопісы, у якіх друкаваліся артыкулы Бялінскага — «Отечественные записки», «Современник» і інш., так і дзякуючы папулярызацыі іх прагрэсіўнымі друкаванымі органамі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. У прыватнасці, у канцы 40-х гадоў эстэтычныя ідэі Бялінскага актыўна папулярызаваў на старонках выходзіўшага ў Вільні часопіса «Паментнік науковалітэрацкі» Р. Падбярэскі. У ліку праваднікоў ідэй Бялінскага ў Беларусі і Літве быў першы беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Франц Савіч, а таксама ўдзельнік гуртка петрашэўцаў, ураджэнец Беларусі Іван Ястржэмбскі.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ідэі Бялінскага знаходзілі адлюстраванне на старонках газет «Минский листок», «Северо-Западный край» і інш.

Аднак сапраўднае вывучэнне і папулярызацыя ідэйнай спадчыны Бялінскага ў Беларусі пачалася толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. За гады Савецкай улады ў рэспубліцы апублікавана вялікая колькасць артыкулаў і шэраг манаграфій, прысвечаных аналізу светапогляду вялікага крытыка і філосафа.

Ідэйная спадчына Бялінскага перайшла межы яго часу і служыць справе пабудовы новай сацыялістычнай культуры, выхаванню высокіх маральных і эстэтычных якасцей савецкіх людзей.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

---

мее, хай наракае на сябе. Будзем глядзець на большае... Рэшта ўсё — глупства. Мала што можа чапляцца за ногі ў вялікай дарозе».

Купала знаходзіў дакладны крытэрый якасці мастацкага твора, яго грамадскай значнасці, грунтоўна разбіраўся ў складанай літаратурнай абстаноўцы. Пры гэтым Бялінскі заставаўся для яго адным з першых дарадчыкаў, бо абараняў літаратуру жыццёвай праўды, натхнёную вялікімі ідэямі.

Купала і Колас — прадаўжальнікі традыцый рускага крытыка — патрабавалі ад літаратурнага твора глыбокага зместу, значнай думкі, мастацкай дасканаласці. Для іх бясспрэчнай была ідэя Бялінскага аб тым, што мастацтва павінна служыць грамадскім інтарэсам, быць адным са сродкаў тлумачэння і пазнання жыцця. Яны былі патрабавальнымі да сябе, да сабратаў па пяру, лічылі, што пісьменнік павінен несці строгую адказнасць перад часам і народам за кожнае напісанае слова. Яны разглядалі літаратуру як магутны сродак уздзеяння на масы. У артыкуле «За высокую ідэйнасць і мастацкую дасканаласць» (1949) Колас пісаў: «Найлепшы твор — гэта той, які мае найбольшую ідэйную нагрузку пры найкарацейшым і найдасканалейшым слоўным выражэнні. Так гаварыў Пушкін, так навучаў Бялінскі». Класікі беларускай літаратуры не бачылі карысці ў творах пустых, павярхоўных, аморфных. Яны не прымалі штучнай ломкі вершаваных радкоў, аглушэння чытачоў усякімі гукавымі эфектамі. Наватарства пісьменніка імі бачылася ва ўменні гаварыць аб новым, перадавым у адзіна магчымых формах, падказаных гэтым новым.

Купала і Колас садзейнічалі ўвекавечванню памяці вялікага крытыка на роднай зямлі. Так, Колас з'яўляўся членам Усесаюзнага камітэта па правядзенні 100-годдзя з дня смерці Бялінскага. На адкрытым пасяджэнні Акадэміі навук БССР і Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным гэтай даце, што адзначалася 7 чэрвеня 1948 г. у Мінску, ён выступіў з яркай прамовай, у якой зрабіў усебаковую характарыстыку дзейнасці славутага крытыка. Колас быў засмучаны, што па стану здароўя не змог прыняць удзел у маскоўскіх мерапрыемствах, прысвечаных памяці пісьменніка-дэмакрата. У сваіх артыкулах і мастацкіх творах ён неаднойчы звяртаўся да вобразаў і думак Бялінскага.

Купалу і Коласа радаваў культурны рост беларускай вёскі ў савецкі час. Яны разумелі тую важную ролю, якую адыграла класічная руская літаратура, у тым ліку і Бялінскі, у фарміраванні савецкага чалавека. У артыкуле «У родных мясцінах» (1946) Колас з гордасцю адзначаў, што забытыя ў нядаўнім мінулым сяляне, якія ведалі толькі рыпучую саху ды жабрацкі надзел, былі дасведчаны ва ўсіх міжнародных справах, чыталі па памяці беларускіх паэтаў, прасілі дасылаць навінкі савецкай літаратуры, з любоўю гаварылі пра Пушкіна і Бялінскага. Гэта тым больш прыемна ўсведамляць, калі ўлічыць, што Бялінскі на пачатку жыццёвага шляху хацеў прыехаць на настаўніцкую працу ў Беларусь, вучыць беларускіх дзяцей грамаце, і толькі перашкоды царскіх чыноўнікаў не далі яму магчымасці здзейсніць сваю задуму.

Творчая спадчына Бялінскага дапамагае вырашаць агульныя праблемы літаратурнага працэсу, што жыватворна адбіваецца на развіцці беларускага мастацтва.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ.**

---

# Канстанцыя БУЙЛО

**4 чэрвеня 1986 г. на 88-м годзе жыцця памерла вядомая беларуская пісьменніца, адна з пачынальніц сучаснай беларускай паэзіі Канстанцыя Буйло (Канстанцыя Антонаўна Калечыц).**

**Канстанцыя Буйло нарадзілася 11 студзеня 1899 г. у горадзе Вільні ў сям'і ляснога аб'ездчыка. Скончыўшы настаўніцкія курсы ў Вільні (1914), працавала на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. Пасля перамогі Вялікага Кастрычніка—супрацоўнік Валакаламскага павятовага выканкома рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бухгалтар саўгаса «Данілкава». З 1923 г. Канстанцыя Буйло жыла і працавала ў Маскве.**

**Друкавацца пачала ў 1909 годзе. Першы зборнік вершаў Канстанцыі Буйло «Курганная кветка» выйшаў у 1914 г. у горадзе Вільні. Яго адрэдагаваў Янка Купала, творчасць якога зрабіла на маладую паэтэсу вялікі ўплыў.**

**Жыццё Канстанцыі Буйло было заўсёды звязана з людзьмі працы, з іх марамі і спадзяваннямі, тут яна чэрпала сваё паэтычнае натхненне.**



**Канстанцыя Буйло аўтар кніг паэзіі «Світанак», «На адноўленай зямлі», «Май», «Роднаму краю», кніжак вершаў для дзяцей «Юрачка», «У бляску зор». Неаднаразова выдаваліся аднатомнікі, а ў 1981 годзе выйшаў двухтомнік выбраных твораў паэтэсы. Паэзія Канстанцыі Буйло вызначаецца шчырасцю, глыбокім лірызмам, цесна знітавана з народнай творчасцю. Яна аптымістычная па настрою, усім сваім зместам сцвярджае лепшыя ідэалы сучасніка, чалавека-творцы. Многія вершы паэтэсы пакладзены на музыку. Асабліва шырокую вядомасць набыла песня «Люблю наш край».**

**Пяру Канстанцыі Буйло належаць п'есы «Кветка папараці», «Сягонняшнія і даўнейшыя».**

**Творы паэтэсы перакладзены на мовы народаў СССР.**

**Творчая і грамадская дзейнасць Канстанцыі Буйло высока адзначана Радзімай. Паэтэса ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі. У 1968 г. ёй было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.**

**Да апошніх дзён жыцця Канстанцыя Буйло падтрымлівала цесную сувязь з пісьменніцкай арганізацыяй рэспублікі, цікавілася справамі роднай Беларусі.**

**Светлы вобраз Канстанцыі Антонаўны Буйло назаўсёды застанецца ва ўдзячнай памяці народа.**

**А. Т. КУЗЬМІН, Н. М. МАЗАЙ, І. І. АНТАНОВІЧ, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), К. К. АТРАХОВІЧ (Кандрат Крапіва), І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, П. Е. ПАНЧАНКА, І. П. ШАМЯКІН, Р. І. БАРАДУЛІН, Г. М. БУРАЎКІН, Н. С. ГІЛЕВІЧ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, А. А. ЖУК, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЕНАК, В. А. КАЗЬКО, В. Ф. КАРАМАЗАЎ, К. Ц. КІРЭЕНКА, Ц. В. КРЫСЬКО (Васіль Вітка), А. П. КУДРАВЕЦ, А. А. ЛУЖАНІН - КАРАТАЙ (Максім Лужанін), І. Я. НАВУМЕНКА.**

---

# СХІЛЯЮ ДУШУ СВАЮ...

**Не стала Канстанцыі Антонаўны Буйло — паэта, маці, жанчыны. Не стала чалавека, сэрца якога радавалася і трывожылася, плакала і смяялася, пакутавала і шчыравала, але заўсёды аддана належала і служыла радку.**

Няхай сабе схіляе дзень
зіхоткі бег на ціхі вечар.
Няхай сабе і ноч ідзе,
я не ўхілюся ад сустрэчы...

**Хочацца маўчаць — жалоба заўсёды негаваркая. Але цесна ў маўчанні думкам, якія то вяртаюць у слотны дзень, пад лістападаўскае маскоўскае неба ў Ціхвінскі завулак, дзе жыла паэтэса, то спрабуюць спрачацца з мяжой, за якою... ні неба, ні зямлі. А ў памяці ўсё тыя некалькі дзён, калі па просьбе рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка» паехала да Канстанцыі Антонаўны, каб напісаць артыкул да яе васьмідзесяцігоддзя. Вось яна сустракае на парозе сваёй кватэры, і я дзіўлюся яе зычнаму, густому, вельмі маладому голасу... Вось яна частуе печанымі яблыкамі з халодным малаком і гаворыць, што нідзе няма такой антонаўкі, як на Гомельшчыне, і што кожную восень у яе кватэры пах беларускіх садоў... Вось яна паказвае мне тоненькую кніжачку «Нашай Нівы» і пачынае чытаць паэму Янкі Купалы «Курган», якая друкавалася ў тым нумары, а пасля кароценькае апавяданне Змітрака Бядулі «Пяць лыжак заціркі»... А потым нечакана пачынае расказваць нешта сваё, далёкае, дарагое і вельмі балючае... Дзіўныя размовы дзвюх жанчын, калі адна ведае ўсё пра жыццё, а другая толькі спрабуе ўведаць, а жыццё ў Канстанцыі Антонаўны было багатае і на радасць, і на гора.**

**Як далёка ад нашага часу 1914 год, калі ў віленскім выдавецтве Марціна Кухты выйшла першая кніжка паэтэсы «Курганная кветка», складаў і рэдагаваў якую Янка Купала. У адну з раніц той маскоўскай восені Канстанцыя Антонаўна чытала свае самыя першыя вершы: «На сухім, сухім кургане, дзе ад спёкі траўка звяла, сярод лому, на бур'яне мая кветка красавала...» Вершы падабаліся Янку Купалу, інакш ён не пагадзіўся б быць рэдактарам. Пра Купалу былі самыя цёплыя, самыя светлыя словы Канстанцыі Антонаўны. Пра той віленскі перыяд я многа ведала з кніжкі ўспамінаў Паўліны Мядзёлкі, ён быў дарагім і для Канстанцыі Буйло — там пачынаўся яе літаратурны лёс, і памяць паэтэсы ўтрымала ўсё з гэтага лёсу. Вось яна расказвае пра сустрэчу, калі на яе маскоўскую кватэру завіталі Янка Купала і Кузьма Чорны, і адразу ж пытаецца: «А што, як зараз у Мінску? Якія творы з'яўляюцца ў друку? Якая моладзь прыйшла ў літаратуру?»... Ей хацелася пабачыць новы Дом літаратара, хацелася пасядзець у парку ля музея Янкі Купалы... «Хачу пабачыць многіх і з многімі пагаварыць. — гаварыла Канстанцыя Антонаўна сваім сакавітым голасам, — і, ведаеце, дарогі баюся... Я ў той пары, калі з узростам не жартуюць...»**

**Узрост — падарунак часу, якому падуладна многае: ён можа змяніць аблічча чалавека, можа пераламаць яго характар або перамяніць погляд на тую ці іншую з'яву жыцця, і адзінае, што не падуладна яму, — гэта душа чалавечая. Душа Канстанцыі Антонаўны Буйло была натхнёная, яна свяцілася ў яе добрых, уважлівых, пранікнёных вачах, яна вабіла жыццярадаснасцю, любоўю да людзей, да зямлі, якая ўзгадавала яе, якой яна аддала гады плённай працы.**

**Не стала Канстанцыі Антонаўны Буйло — паэта, маці, жанчыны. Не стала пясняркі роднага краю, сваю любоў да якога яна выказала ў адным з самых лепшых вершаў «Люблю», а недзе на адзінокім кургане пад Мінскам ці на Лідчыне гэтай чэрвеньскай парою зацвітае курганная кветка... Нізка схіляю перад ёю душу сваю.**

Рака быцця...
Яна бруіцца ў вершах.
Не хвалі яна гоніць, а гады...
І дзень апошні, мо згадаўшы першы,
Знікае непапраўна назаўжды.

Ракэ быцця...
Ніхто з жывых не знае,
Так як не знаюць сушы караблі,
У акіян які яна ўпадае,
Спачатку даўшы Долю на зямлі.

**Раіса БАРАВІКОВА.**

---

# НЕ ЗАВЯНУЦЬ КВЕТКІ НА КУРГАНЕ

**Усхадзіліся думкі завейным пажарам...**
**Хто паверыць, хоць скруха з-пад цяжкіх павек,**
**што Вы сталі, падобнай рукамі і тварам**
**да жанчыны, якая заснула навек...**

**Я не веру, што ціша бальнічнай палаты,**
**і спагадлівы шэпт міласэрных сясцёр,**
**і лагода ўрачоў — ёсць належная плата**
**за багацце пачуццяў, за ўсё хараство!**

**Дзе праменнасць вачэй, да ўзаемнасці прагных,**
**і пяшчотныя вусны — няўжо адцвілі?**
**Толькі песня, бы воблака, ціха і плаўна**
**аддаляецца ў светлую даль ад зямлі...**

**О, няўжо ёй застацца і заўтра, як сёння,**
**ў неспакойнай сумоце — сам-насам — адной**
**з незагойнай тугой па высокаму сонцу,**
**у заўсёдным расстанні з радзімай зямлёй!**

**Мы не верым, што Ваша вясна адшугала...**
**Колькі ў кветках курганных нятленнай красы!**
**Недарэмна зязюля за гаем кувала,**
**захлынаўся салоўка ад чыстай расы.**

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

---

# Песня

**Яна расцвітала курганнаю кветкай**
**На адзінокім здзічэлым пагорку,**
**Яна каласком красавала улетку,**
**А ў цемры—свяціла нязгаснаю зоркай.**

**Ішлі па сяле грамадою дзяўчаты,**
**А песня ў прасторы нябеснай лунала,**
**Садзілася з намі на прызбу ля хаты**
**І паднябессе сабой калыхала.**

**Была неразлучная з доляй жаночай,**
**Са жнеямі йшла на палетак гаротны**
**І жала палоску да цёмнае ночы,—**
**Вязала снапы...**
**І бяліла палотны.**

**Яна вандравала ад хаты да хаты,**
**Ад гора да гора,**
**Ад болю да болю...**
**І птушкай ляцела на дом той, дзе краты,**
**І вязня будзіла,**
**І звала на волю...**
**Адыдзе той час у далёкія далі,**
**За сінія горы**
**І за туманы...**
**І там, дзе мы гора і боль пахавалі,**
**Звінець будзе песня над ціхім курганам.**

**Звінець будзе песня ў зялёнае ранне.**
**А ў жніўную пору,**
**Звонкай пагодай,**
**Над нівай—жаўронкам у небе стане,**
**Каб неразлучнаю быць з народам.**

**Ніна ТАРАС.**

---

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Масарэнку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці старэйшай беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР Канстанцыі БУЙЛО (Калечыц Канстанцыі Антонаўны) і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**




**Валянцін ТАРАС**

# СЦЭНКА З ЛІТАРАТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

Калега выдаў твор благі.
Я напісаў, што твор —благі.

І вось сустрэліся ў Саюзе.
Ён мне рукі не падае,
учэпіста бярэ за гузік,
пытанне злосна задае:
— Што я зрабіў табе
благога?
— Благога? Мне?
Ды не,
нічога!..

— Дык спляжыў ты мяне
чаму?

Што мог я адказаць яму?
Кажу:
— Калега дарагі,
надрукаваў ты твор благі...

— А што табе? Благі!
харошы!
Не ты за творы плаціш
грошы!

І зноў пытаецца, нябога:
— Што я зрабіў табе
благога?

Кажу:
— Калега дарагі,
надрукаваў ты твор благі!
У ім няма жывога слова!
Няма характару жывога!

— Не, браце, — гэта не
размова!
Што я зрабіў табе благога?
І спляжыў ты мяне за што?
Я ўсё ж зрабіў благое
штосьці?

Я закрычаў:
— Зрабіў!
Са злосці
скруціў мне гузік з паліто!

— Калі?

— Цяпер! І не заўважыў.
За гэты гузік я і спляжыў
цябе авансам — ясна? не?!

Сказаў калега: — Упаўне!
А то я галаву ламаю,
прычыну тыднямі шукаю —
за што ты ўз'еўся на мяне?

# ФРАЗЫ

У барацьбе з самім сабою ўсе прыёмы дазволеныя.

●

Біць лынды часам дапамагаюць службовыя інструкцыі.

●

Колькі дойных кароў зрабілі з заблудных авечак!

●

Вось і яшчэ адны ланцугі Гіменея разарваліся пасля буры ў шклянцы вады.

●

У яго было столькі сілы, што пра розум яго пытаць проста баяліся.

●

Раб рэчаў да таго апусціўся, што шукае мэблю з... генеалагічнага дрэва.

Р. РУМКО.

●

І ў плагіятараў бываюць творчыя знаходкі.

●

Талент заяўляе пра сябе на ўвесь голас, бяздарнасць —на ўсё горла.

●

Спачатку была слава, затым — апладысменты.

●

Не ўсякі гастралёр — залётны салавей, падчас гэта салавей-разбойнік.

В. СЦЯПАНАУ.

**У. БУЛАТАВІЧ ВІБ**

# АФАРЫЗМЫ

Нікому не паверу, што ён добра плавае, калі не ўтапіў хоць двух настаўнікаў.

●

Людзі, ці бачылі вы хоць раз, каб конь у скачках падставіў нагу другому каню?

●

Дзе-хто і ў паводках бачыць шанцы стаць адміралам.

●

Свет дзеліцца на людзей, якія думаюць, і на людзей, якія маюць думку.

●

Не радуйся мядзведзю каля чужой хаты. Мядзведзь блукае.

●

У жыцці ёсць былыя людзі, але няма былых нягоднікаў.

З сербскахарвацкай пераклаў
Іван ЧАРОТА.

**Юрый БЯРЭЗІН**

# КЕМЛІВЫ

Сымон Пятровіч Напаўкруглы напісаў гумарыстычнае апавяданне і паслаў яго ў адзін з часопісаў.

Адказ, які ён атрымаў, быў лаканічны: «На жаль, рэдакцыйны партфель літаральна перапоўнены творамі, што падрыхтаваны да друку».

Сымон Пятровіч у той жа дзень купіў новенькі партфель з двума бліскучымі замкамі. Увечары ён напісаў яшчэ адно апавяданне, паклаў яго ў партфель і раніцай адправіў усё пасылкаю ў рэдакцыю.

Неўзабаве адтуль зноў прыйшло пісьмо: «За партфель вялікае дзякуй. Што ж тычыцца вашага апавядання, то, на жаль, рэдакцыйны стол літаральна завалены матэрыяламі...»

Сымон Пятровіч цяжка ўздыхнуў і пацягнуўся ў мэблевы магазін.

Пераклаў з украінскай
М. СЛІВА.

**Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ**

# МІФАЛАГІЧНЫЯ ГІСТОРЫІ

## УРОК

Бог багоў Зеўс у халасцяцтве быў страшэнны валацуга. Колькі ў яго было каханак, Зеўс не помніў і сам. Шураваў грамавержац сярод багінь, не грэбаваў і зямнымі кабетамі. Потым пасталеў, ажаніўся з багіняй Герай, у прысутнасці ўсіх багоў зарэгістраваў з ёй шлюб у ЗАГСе на Алімпе. Але і пасля жаніцьбы свае штукарствы не кінуў. Бог ды яшчэ галоўны — што з яго возьмеш?

Каб жа гэта разумела яшчэ і Гера! Прыгожая, але ж і раўнівая жонка дасталася Зеўсу. Ненавідзела яго каханак, яго пазашлюбных дзяцей, сяды-тады з рэўнасці рабіла дробныя ўпікі і самому грамавержцу. Асабліва ж неўпадабала Гера любімца Зеўса Геракла — мужавага сына ад яго кахання з прыгажуняй царыцай Алкменай. Што толькі ні рабіла каварная Гера, каб загубіць любімага сына Зеўса! Аднойчы, калі Геракл вяртаўся на караблі з-пад Троі, наслала Гера на мора жудасную буру. А каб не ведаў муж, якая небяспека пагражае яго любімаму сыну, упрасіла Гера бога сна Гіпноса ўсыпіць Зеўса. Пакуль спаў валадар багоў, цяжка давялося Гераклу, ледзь выратаваўся ад згубы вялікі герой.

Прачнуўся Зеўс і надта ж зазлаваў, калі даведаўся, што любімец яго Геракл быў на валасок ад пагібелі. Раз'юшаны Зеўс закаваў сваю жонку ў ланцугі і падвесіў яе паміж небам і зямлёю, прывязаўшы да ног раўнівіцы два цяжкія кавадлы. Дармо, што ланцугі былі з чыстага золата — мулялі яны няшчаснай, як простае жалеззе! І кожнага з багоў, хто, шкадуючы, хацеў дапамагчы пакутніцы, жудасны ў гневе Зеўс хапаў за каўнер і кідаў ніцма з высокага Алімпа. Не адзін з магутных багоў чухаў у той дзень патыліцу! Бог Гіпнос ледзьве ўратаваўся, схавала яго багіня Ноч і то за тое, што Гіпнос абяцаў дастаць ёй імпартныя таблеткі ад бяссонніцы.

Ну, а што наша Гера? Хацела развесціся з Зеўсам. Але перадумала. Надта ж у мужа пасада выгодная!

## ПІЛЬНЫ АРГУС

Сто вачэй у вернага сабакі Аргуса, пільна вартуе ён маёмасць свайго гаспадара. Але вось прыляцеў на сваіх крылах пасланец багоў хітры Гермес і наплёў цэлы мех усялякай хлусні. Гермес маніць, а ў Аргуса вочы зліпаюцца — ах, як цікава! Заснуў Аргус, і адсек яму галаву Гермес з усёй яе сотняй вачэй.

Бедны Аргус! Ці не лепш для вернай службы мець звычайную пару вачэй і хоць бы адно-адзінае вуха, якое, аднак, здолела б адрозніць праўду ад хлусні?

## УХВАЛА

Паважалі людзі цара Атыкі Перыфанта, любімца прамяністага бога Апалона. Гэтак паважалі, што пачалі ўшаноўваць нароўні з богам багоў Зеўсам.

Даведаўся пра гэта вялікі грамавержац Зеўс і, ледзь стрымліваючы гнеў, сказаў:

— А што... Ён неблагі хлопец, гэты Перыфант. Адно слова — арол!

Ну, дык бачыце арла, які, цяжка махаючы крыламі, сеў паблізу і сумна пра нешта думае? Гэта Перыфант пасля пахвалы Зеўса...

# ДЗІВАК-ЧАЛАВЕК...



Мал. М. ШЫШЛОВА.




з 16 па 22 чэрвеня

**16 чэрвеня, 20.20**

ДРУГІ
ЎСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ
НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Выступленне народнага ансамбля танца «Крыжачок» БДУ імя У. І. Леніна.

**17 чэрвеня, 18.10**

«МОЙ РОДНЫ КУТ»

Знаёмства з гераічным мінулым Акцябрскага раёна.

**18 чэрвеня, 20.20**

«У СТАРЫМ ДОМЕ»

Інсцэніроўка паводле аднайменнага апавядання Я. Скрыгана. Ролі выконваюць: Зося — Галіна Кухальская, Кастусь — Анатоль Жук. Рэжысёр — Г. Сакалова, вядучы аператар — Д. Юрэвіч.

**20 чэрвеня, 19.50**

ПАКАЗВАЕ ГОМЕЛЬ. «РАДЗІМІЧЫ»

Літаратурна-мастацкі часопіс.

**21 чэрвеня, 11.15**

СЛОВА — ПАЭЗІІ

Паэт М. Арочка пазнаёміць тэлегледачоў са сваімі новымі вершамі.

**21 чэрвеня, 13.05**

«РОЗДУМ».
КАРЦІНА Л. АСЯДОЎСКАГА
«БАЛАДА ПРА МАЦІ»

Вядзе перадачу мастацтвазнаўца У. Бойка.

**21 чэрвеня, 13.30**

ДРУГІ
ЎСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ
НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Канцэрт хору народнай песні мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл». Кіраўнік калектыву — Л. Ваўчок.

**21 чэрвеня, 18.25**

СВЯТА ДРУЖБЫ І БРАТЭРСТВА

Дні літаратуры і мастацтва Беларускай ССР у Эстонскай ССР. Музычная праграма.

**21 чэрвеня, 19.55**

«СУГУЧЧА»

Руская класічная паэзія ў перакладах В. Зуёнка, В. Віткі, Я. Міклашэўскага.

**21 чэрвеня, 20.25**

«КВЕТКІ-КВЕТКІ»

Рамансы рускіх і савецкіх кампазітараў выконвае народная артыстка БССР І. Шыкунова. Акампаніруе заслужаная артыстка рэспублікі Т. Міянсарава.

**21 чэрвеня, 22.55**

«СУСТРЭНЕМСЯ
ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»

Музычная праграма з удзелам вакальна-інструментальнага ансамбля «Полымя».

**22 чэрвеня, 16.25**

«Я ПЕРАД ВАМІ
З ПАМЯЦЦЮ СВАЁЙ»

Песні ў выкананні народнага артыста БССР В. Вуячыча.

**22 чэрвеня, 17.30**

ІГРАЕ АНСАМБЛЬ
СКРЫПАЧОЎ СІБІРЫ

У праграме — папулярныя эстрадныя мініяцюры, фрагменты з сімфанічнай, опернай, балетнай музыкі. Вядзе перадачу музычны каментатар Э. Язерская.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 05763

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-19-85, аддзела публіцыстыкі—33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела тэатра і выяўленчага мастацтва — 33-21-53, аддзела музыкі і кіно—33-21-53, аддзела культуры—33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі—33-24-62, выдавецтва—23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.